*Сярод важнейшых літаратурных падзей апошняга часу — вяртанне чытачам імя і творчасці трагічна-легендарнага беларускага дарэвалюцыйнага крытыка і публіцыста, сябра Я. Купалы і М. Багдановіча Сяргея Палуяна (1890-1910), стагоддзе з дня нараджэння якога спаўняецца ў кастрычніку гэтага года. Т. Кабржыцкай і В. Рагойшу ў выніку працяглых пошукаў пашчасціла ліквідаваць многія «белыя плямы» ў біяграфіі пісьменніка, адшукаць і ўпершыню выдаць у зборніку «Лісты ў будучыню» (1986) яго творы. Пра нялёгкі плён эўрыстычных пошукаў, жыццё і творчасць С. Палуяна расказваюць літаратуразнаўцы ў гэтай кніжцы.*

# СЛЯДАМІ ЗНІЧКІ

*Так свабодна, так ярка пражыць —*
*Лепшай долг няма на зямлі.*
*Ўсё кругом на мамент асвяціць*
*І пагаснуць у цёмнай імглі.*
*Усё праходзіць, знікае, як дым,*
*Светлы ж след будзе вечна жывым.*

Максім Багдановіч. «С. Е. Палуяну»

## Колькі слоў да пачатку дарогі

У беларускай літаратуры, багатай сваімі драмамі і трагедыямі, постаць Сяргея Епіфанавіча Палуяна (1890-1910), бадай, самая трагічная. Ад прыроды надзелены, не пабаімся сказаць, геніяльнымі задаткамі, вялікі жыццялюб і працалюб, ён змог папрацаваць у літаратуры ўсяго адзін год, загінуў у дзевятнаццаць з палавінай гадоў, налажыўшы на сябе рукі. Чалавек адкрытае душы, выключна таварыскі, ён у той жа час, па словах М. Багдановіча, «быў, як месяц, адзінокі: самотна жыў, самотна ўмёр». Нарадзіўшыся ў даволі заможнай сям'і, ён сваё нядоўгае самастойнае жыццё правёў у страшэннай галечы. Нарэшце, яму, хто меў выключныя здольнасці да навукі, не ўдалося скончыць нават звычайнай гімназіі, давялося здабываць веды самавукам.

На ўсім гэтым ляжаць адзнакі дакастрычніцкай рэчаіснасці, змрочнай сталыпінскай рэакцыі, калі панаваў жорсткі сацыяльны і нацыянальны ўціск, душылася ўсё светлае, прыгожае, маладое. Разам з тым праглядаюць тут і рысы непахіснае натуры, якая цвёрда адстойвае свае ідэалы і можа пад цяжарам невыносных жыццёвых абставін нават зламацца, але — ніколі не стане на калені, не сагнецца.

Сяргей Палуян даўно стаў светлай легендай беларускай культуры. Быццам знічка, ён ярка ўспыхнуў у небе нашага прыгожага пісьменства і тут жа згас, пакінуўшы пасля сябе надзею ў прыход яснага дня духоўнага адраджэння роднага народа, у хуткае прабуджэнне яго ад доўгага летаргічнага сну. А гэта ва ўмовах непраглядной палітычнай цемры, што наступіла пасля задушэння царскімі ўладамі рэвалюцыі 1905-1907 гг., азначала нямала. Не дзіва, што жыццё і смерць С. Палуяна выклікалі такі жывы водгук, бадай, ва ўсіх лепшых тагачасных беларускіх пісьменнікаў — Я. Купалы, М. Багдановіча, Ц. Гартнага, Ядвігіна Ш., А. Гурло, В. Ластоўскага...

Аднак, як і ў кожнай легендзе, у «легендзе Палуяна» з гадамі страціліся абрысы рэальнага, жыццёвага, на аснове чаго толькі і ўзнікаюць легенды, якімі б дзівосна-неверагоднымі яны пасля ні здаваліся. Мы ўсе беззапаветна любім пісьменніка Палуяна, але мала хто яго чытаў: мы захапляемся мужнасцю грамадзяніна Палуяна, добра ведаем, як ён памёр, але амаль нічога не знаем, як ён жыў, дзе вучыўся, чым — апрача літаратуры — займаўся; мы гаворым пра палымянага патрыёта і інтэрнацыяналіста Палуяна, але ніхто не можа дакладна назваць ні месца, ні даты яго нараджэння; урэшце, у нашай уяве паўстае воблік прыгажуна, вечнага юнака Палуяна, але ніводзін з нас ніколі не бачыў яго на фотаздымку...

Зрэшты, многія «не», «нічога», «ніхто», «ніводзін» сёння адыходзяць у мінулае. Некалькі гадоў няспынных пошукаў завяршыліся плёнам, пра які спачатку нават і не марылася. За гэтыя гады мы дазналіся пра Сяргея Палуяна — яго маленства, вучобу, радню, погляды, упадабанні, здольнасці — столькі, колькі не ўведалі за ўвесь паслярэвалюцыйны час. Адшуканы некаторыя фотаздымкі пісьменніка, яго родных і блізкіх. Урэшце, можна сказаць і пра сенсацыю: мы сустрэліся з трыма роднымі сёстрамі Палуяна...

Аднак, як гаварылі старажытныя латыняне, пачнём «ab ovo» — з яйца.

**След першы. Ленінабад**

Эўрыстычны пошук літаратуразнаўца сваімі сродкамі, прыёмамі вельмі нагадвае працу следчага. Тут і там — супастаўленне дзесяткаў фактаў, іх лагічны аналіз, росшук сведкаў тых ці іншых падзей і г. д. Літаратуразнаўцу, як і следчаму, надзвычай важна знайсці тую нітачку, узяўшыся за якую можна затым разматаць самы заблытаны клубок жыццёвых калізій.

У нашым выпадку такой «нітачкай» стаў фотапартрэт Янкі Купалы, падараваны ў 1909 г. Сяргею Палуяну з наступным надпісам: «На добрую памятку С. Палуяну афярую ад шчырага сэрца. Я. Купала. Вільня. 29/XI.09 г.».

І фотапартрэт, і надпіс даўно вядомыя, публікаваліся ў друку. Аднак ніхто з літаратуразнаўцаў дагэтуль не пацікавіўся, якім чынам гэты фотаздымак трапіў у фонды Літаратурнага музея Янкі Купалы (дзе ён зараз і знаходзіцца). Як, зрэшты, і фотаздымак М. Багдановіча з даравальным надпісам таму ж С. Палуяну.

Логіка падказвала: падараваныя здымкі павінны былі ў свой час быць у іх адрасата. Да каго ж яны перайшлі пасля яго смерці? Як трапілі ў музей?

Галоўны захавальнік фондаў музея Ядвіга Юльянаўна Рамаsuccessoўская на нашы пытанні нічога пэўнага спачатку сказаць не магла. І не дзіўна: у музеі захоўваюцца тысячы экспанатаў, інфармацыю пра іх у галаве не ўтрымаеш. Аднак ветліва паабяцала дапамагчы ў пошуку.

Праз нейкі час мы ўжо трымалі ў руках копію ліста, падпісанага колішнім дырэктарам музея, жонкай вялікага паэта У. Ф. Луцэвіч і пасланага 8.X.1951 г. Бахонку Уладзіміру Фёдаравічу. З ліста відаць, што ў гэтага Бахонкі на пачатку 50-х гадоў і знаходзіліся фотакарткі Я. Купалы і М. Багдановіча, падараваныя калісьці С. Палуяну. Выказвалася настойлівая просьба пераслаць іх на адрас музея, паведаміць факты біяграфіі С. Палуяна, калі яны вядомыя; за ўдзел «у зборы матэрыялаў пра дзеячоў беларускай культуры» абяцалася ўзнагарода — «літаратурай або грашыма»... На лісце значыўся і адрас: Таджыкская ССР, г. Ленінабад, вул. Мічурына, 4.

Усяго мы чакалі, але каб пачатак «клубка» знаходзіўся за тысячы кіламетраў на ўсход ад Беларусі, у далёкім Таджыкістане — такое і ў галаву прыйсці не магло. І ўсё ж мы маглі павіншаваць сябе з першай удачаю. Тым больш, што для нас прозвішча Бахонкі тое-сёе гаварыла. Калісьці, гадоў пятнаццаць назад, працуючы ў Дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР, мы выпадкова натрапілі на паштоўку, пасланую 15 снежня 1909 г. з Кіева ў Вільню, у рэдакцыю «Нашай нівы». На ёй, у прыватнасці, было напісана: «В августе этого года мой брат Сергей Полуян уехал в Вильну. Некоторое время я получал от него письма, имя его встречалось в газете, но теперь я не получаю более 2,5 месяцев писем, а в газете не встречается его имя. Не поставьте себе в труд в день получения сего письма сообщить мне, где он? В Вильне или уехал? Если уехал, то куда? Если он в Вильне, то передайте ему, пожалуйста, эту открытку. С паважаннем И. Бахонька». Слова «брат», відавочна, трэба ўспрымаць як «стрыечны брат», прозвішча «Бахонька» — як правапісны варыянт «Бахонка». Такім чынам, выходзіць, што У. Ф. Бахонка — таксама стрыечны брат С. Палуяна, родзіч яму, як відно, па мацярынскай лініі.

У музеі матэрыялаў Бахонкі ці пра Бахонку больш не знайшлося: ні яго лістоў, ні ўспамінаў пра С. Палуяна — нічога. Магчыма, гэтыя матэрыялы ён дасылаў асобна ад фотакартак і яны пры перасылцы загублены. А можа, і не збіраўся больш нічога пісаць: выслаў фотакарткі, якім ён, безумоўна, ведаў цану, маўляў, карыстайцеся, як палічыце патрэбным,— і ўсё! Хто ведае? Так ці інакш, але ў нашых руках

аказалася «нітачка». Трэба было хутчэй пісаць у Ленінабад, хоць надзеі на поспех, прызнацца, вялікай не было : прайшло ж больш трыццаці гадоў, і за гэты час не толькі чалавека магло не стаць, але нават вуліцы, на якой ён жыў,— мы ведаем, як растуць сучасныя гарады.

На адрас У. Ф. Бахонкі пішам не ліст, а паштоўку. Разлік просты: калі Бахонка ўжо не жыве на ранейшым месцы, то новыя жыхары дома № 4 па вуліцы Мічурына, прачытаўшы пасланне, павінны нам адказаць або — што найбольш верагодна — перададуць паштоўку ў гарадское адраснае бюро.

Некалькі тыдняў нецярплівага чакання...

Нарэшце вяртаецца наша паштоўка з падклееным да яе бланкам гарадскога адраснага бюро: «Адрасат выпісаны па Ленінабаду і вобласці». Куды? Калі? Звестак пра гэта няма.

«Нітачка» абрываецца...

Што рабіць?

І тут у галаву прыходзіць, што калісьці мы завочна пазнаёміліся з адным цікавым літаратуразнаўцам, апантаным пошукаўцам Аляксандрам Зіноўевічам Дунам, які жыве — адразу не прыгадаеш — недзе ў Сярэдняй Азіі. На рахунку А. З. Дуна некалькі выдатных эўрыстычных знаходак: у прыватнасці, ён адшукаў невядомую пракламацыю Аргкамітэта па скліканню II з'езда РСДРП з эпіграфам з Лесі Украінкі, «адкрыў» Г. М. Рык-Багданіка — першага перакладчыка Я. Коласа на рускую мову, таленавітага паэта пачатку XX ст. (пісаў на рускай мове), беларуса па паходжанню... Гартаем старую запісную кніжку з адрасамі. Гэта ж трэба: Аляксандр Зіноўевіч, аказваецца, жыве ў тым самым Ленінабадзе!

Старыя ленінабадцы, як паведаміў пасля А. Дун, які ахвотна і шчыра ўзяўся дапамагчы нам, адразу ўспомнілі У. Ф. Бахонку: працаваў у абласным статыстычным упраўленні, потым стаў нават памочнікам першага сакратара абкома партыі... У 50-х гадах выйшаў на пенсію і выехаў да дачкі недзе на Украіну... Родных у яго тут не засталося... Вызначаўся надзвычайнай акуратнасцю, сумленнасцю ў рабоце, карэктнасцю ва ўзаемаадносінах з людзьмі...

Запыты ў абласное і рэспубліканскае статыстычнае ўпраўленне, у рэспубліканскі партыйны архіў... З Ленінабада прыходзіць копія аўтабіяграфіі У. Ф. Бахонкі, напісанай у 1939 г. Нарадзіўся ў 1893 г. у Брагіне ў сям'і селяніна-рамесніка; бацька памёр, калі сыну было ўсяго тры гады, і сям'ёй сталі апекавацца два бацькавы браты — настаўнікі павятовых вучылішчаў; на радзіме закончыў толькі два класы сельскай школы, бо ў 1902 г. сям'я пераехала ў Кіеў; у 1913 г. скончыў кіеўскую 4-ю гімназію, у якой карыстаўся льготамі як

утрыманец работнікаў асветы, паступіў у Кіеўскі медінстытут, але з-за матэрыяльных цяжкасцей павінен быў яго пакінуць; пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі працаваў на Украіне ў сістэме ўпраўлення сельскай гаспадаркі; у 1930 г. па дамоўленасці з Таджыкскім Пастпрэдствам у Маскве пераехаў у Таджыкістан і з таго часу працаваў там у розных планавых і кантрольных органах; у 1939 г. узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»; жонка — Бахонка Вера Фёдараўна; дачка — Бахонка Надзея Уладзіміраўна, член ВКП(б), жыве ў г. Кіеве.

Апошнія аўтабіяграфічныя звесткі для нас былі, бадай, найважнейшыя. З іх вынікала, што стрыечнага брата Сяргея Палуяна, у якога доўгі час захоўваліся фотаздымкі Я. Купалы і М. Багдановіча, трэба шукаць у Кіеве. Прычым пошукі адкладваць нельга ні на дзень: У. Ф. Боханку, калі ён яшчэ жывы, павінна быць дзевяноста гадоў!

**След другі. Кіеў**

Мы ішлі па горадзе, які для беларуса Сяргея Палуяна стаў родным. Тут ён пэўны час жыў, пераймаючы, як ён казаў, перадавую ўкраінскую культуру, прымаючы ўдзел у падпольнай рэвалюцыйнай працы (Цішку Гартнаму прызнаўся неяк, што «належаў да ўкраінскіх сацыялдэмакратаў»)... Тут ён шырока друкаваўся (у прыватнасці, змясціў у кіеўскай перыёдыцы свае першы і апошні артыкулы)... Тут прайшлі апошнія месяцы яго бліскавічнага жыцця, тут у доме 37 па вуліцы Гогалеўскай ён памёр і пахаваны на Байкавых могілках...

Падаў мяккі сакавіцкі снег — як апошні ўздых канаючай зімы. Тысячы бухматых парашуцікаў паволі апускаліся на разлапістыя каштаны, на садовыя лаўкі, мільгацелі ў яркім святле вулічных ліхтароў, раставалі на вейках... Мроілася: вось-вось з-за снегавой каламуці выйдзе насустрач высокі, чырванашчокі, русавалосы юнак з купалаўскай «Жалейкаю» ў руцэ... Але маланкі тралейбусных дуг, прывіды сучасных аўтамабіляў вярталі да рэальнасці...

З дапамогай кіяўлянкі Ніны Васільеўны Яроменкі, сваёй прафесіяй доктара далёкай ад літаратуразнаўства, але душою блізкай да нашых штодзённых клопатаў, мы даволі хутка даведаліся, дзе ў Кіеве жыве Надзея Уладзіміраўна Бахонка (яна і ў замустве не памяняла прозвішча), і ў той жа дзень, адклаўшы ўсе справы, выехалі ў сталіцу Украіны. Ад Ніны Васільеўны, якая праз гарадскую даведку атрымала нумар тэлефона Надзеі Уладзіміраўны і сазванілася з ёю, мы ўжо ведалі, што Уладзіміра Фёдаравіча Бахонкі, на вялікі жаль, няма ў жывых (памёр яшчэ ў 1966 годзе), а яна, яго дачка, толькі што выйшла на пенсію. Надзея Уладзіміраўна спачатку не разумела, чаго

ад яе хочуць «беларускія літаратуразнаўцы». Пасля ж згадзілася нас прыняць.

І вось мы сядзім ва ўтульнай кіеўскай кватэры па вуліцы Студзеньскага паўстання, нетаропка размаўляем. Надзея Уладзіміраўна не вельмі гаваркая, але ў яе няспешным расказе ўзважана кожная фраза, кожнае слова.

— Так, Сяргей Палуян і мой бацька — стрыечныя браты. Несумненна, яны былі ў блізкіх стасунках... Свайго стрыечнага дзядзьку я ніколі не бачыла, нарадзілася праз некалькі гадоў пасля яго смерці, і пра яго ў нашай сям'і размоў пры мне неяк не ўзнікала. Ды і з бацькамі я не жыла з 1930 года, калі яны пераехалі ў Таджыкістан: засталася ў Кіеве канчаць сярэднюю школу, скончыла тут мединстытут, выйшла замуж... Відаць, пра дзядзьку Сяргея магла б нешта цікавае расказачь мая маці, якая праз бацьку, безумоўна, яго ведала. Памерла яна зусім нядаўна, у 1982 годзе...

Вось ужо сапраўды, мы «ленивы и нелюбопытны» (А. Пушкін)! Гэта ж, лічы, на нашых вачах адышлі людзі, якія маглі б многае праясніць з Палуянавага жыццяпісу, да крыўднага беднага на факты і даты. Аднак, з другога боку, хто б мог падумаць, што яшчэ жывуць — ды зусім побач! — гэтыя людзі. І беларускія, і ўкраінскія літаратуразнаўцы неяк маўкліва пагадзіліся, што сучаснікаў Сяргея Палуяна даўно няма ў жывых і хіба толькі архівы могуць нешта паведаміць пра яго жыццё і творчасць. А ў архівах амаль нічога не знаходзіцца...

Просім Надзею Уладзіміраўну расказаць пра тое, што ёй найбольш вядома,— пра сваякоў Сяргея Палуяна па мацярынскай лініі.

Дзед яе Фёдар Дзмітрыевіч і Аляксандра Дзмітрыеўна, маці Сяргея Палуяна, былі роднымі братам і сястрою. Усе яны паходзяць з сялян мястэчка Брагін, што на Гомельшчыне (дык, можа, і Сяргей нарадзіўся ў Брагіне?). Дзед памёр, калі яму не было яшчэ і сарака пяці гадоў. Удава яго, Марыя Пятроўна Козел, з дзецьмі пераехала ў Кіеў да старэйшай дачкі.

Па-рознаму склаўся лёс дзяцей Фёдара Бахонкі. Старэйшая дачка Зіновія выйшла ў Кіеве замуж за беларуса Івана Пятровіча Баглея, адзін яе сын, якога ў гонар дзеда назвалі Фёдарам, стаў нават народным артыстам УССР, працаваў у Днепрапятроўскім драматычным тэатры. Другі сын Фёдара Бахонкі Ксенафонт вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, у час першай сусветнай вайны яго забралі на фронт, памёр у 1919 г. пад Екацерынаславам бяздзетным. Дачка Валянціна вучылася ў Мітаўскай (цяпер г. Елгава Латвійскай ССР) гімназіі, была замужам, але дзяцей не мела. Яшчэ адна дачка, Алена, маладою, у 23 гады, пакончыла з сабою...

— Ну, а пра майго бацьку Уладзіміра Фёдаравіча вы ўсё ведаеце,— дадае Надзея Уладзіміраўна.

—Раскажыце яшчэ пра дзядзьку Івана Фёдаравіча,— просім мы. Якраз перад прыездам у Кіеў мы знайшлі пра яго некалькі слоў у адной з публікацый 20-х гадоў: вучыўся ў Кіеўскім політэхнічным інстытуце, разам з С. Палуянам прымаў актыўны ўдзел у падпольнай рэвалюцыйнай рабоце, таксама, як і С. Палуян, пакончыў жыццё самагубствам, перажыўшы яго ўсяго на некалькі гадоў.

Нам падалося, што гэтага пытання Надзея Уладзіміраўна не чакала. У вачах засвяцілася пытанне: «Адкуль вы ведаеце пра дзядзьку Івана?» Потым, усё роўна як пераадольваючы нейкі боль («радаслоўны боль» — назавём мы яго пасля), устала, моўчкі выйшла ў другі пакой. Праз некаторы час прыйшла з вялікім старым альбомам. Дастала адтуль пажоўклую газетную выразку.

— Чытайце,— сказала яна.— Самагубства, як нейкая напасць, звалілася на сям'ю дзеда...

Мы чыталі: «Здарэнні. Самагубства студэнта. Учора, у 5 гадзін раніцы, у Марыінскім парку сторож Бяскроўны, прыбіраючы сад, на адной з алей наткнуўся на труп забітага маладога чалавека ў форме студэнта палітэхнікі. Тут жа ляжаў і рэвальвер сістэмы «Сміт і Вінсан» з адной выпушчанай куляю і 4-ма яшчэ кулямі ў барабане. Пры аглядзе трупа паліцыяй самагубца аказаўся раненым у сэрца. Смерць, відавочна, наступіла імгненна. У кішэні маладога чалавека знойдзены студэнцкі білет, з якога відно, што самагубца — студэнт Кіеўскага політэхнічнага інстытута Іван Фёдаравіч Бахонка, які жыў у д. № 8 па вул. Левандоўскай (кв. 25). У кішэні самагубцы знойдзена ўласнаручная запіска: «У смерці маёй прашу нікога не вініць. Прашу не ўскрываць. І. Бахонка». Якія прычыны самагубства, пакуль не высветлена. Труп самагубцы перададзены ў анатамічны пакой пры Аляксандраўскай бальніцы».

— А ў вас няма фотакарткі дзядзькі Івана? — пытаемся мы.

Надзея Уладзіміраўна корпаецца ў альбоме, пасля працягвае здымак. На нас глядзіць юнак у студэнцкай форме з правільнымі рысамі твару, пранікнёнымі вачыма. Уважліва ўзіраемся ў партрэт, шукаючы ў ім падабенства з Сяргеем Палуянам.

Іван і Сяргей, стрыечныя браты, былі аднагодкамі і аднадумцамі. Яны, несумненна, сябравалі. Таму, магчыма, некаторыя асабістыя рэчы, у тым ліку здымкі Я. Купалы і М. Багдановіча з даравальнымі надпісамі, Сяргей Палуян перад смерцю завяшчаў менавіта Івану (вядома, што за некалькі гадзін да смерці Сяргей акуратна спарад-

каваў усе свае рэчы, панадпісваў, каму што належыць...). А потым ужо яны перайшлі да Фёдара.

— А ці няма ў вашым альбоме здымкаў Сяргея Палуяна? — асцярожна, з надзеяй і бояззю адразу атрымаць адмоўны адказ, задаём пытанне Надзеі Уладзіміраўне.

Яна, нічога не гаворачы, пачынае гартаць альбом. Няўжо мы будзем першыя, хто ўбачыць яго воблік? Пакуль што ні на адным з музейных стэндаў, ні ў адным з выданняў Палуянавага партрэта няма. Ведаем, шукалі здымак нашы энцыклапедысты. Вынікі марныя...

Надзея Уладзіміраўна працягвае нам альбом. На трох здымках, знятых у розны час і з розных ракурсаў,— адна і тая ж магіла: за чыгуннай агароджай гранітны помнік-слупок з мармуровым крыжам наверсе. З цяжкасцю разбіраем надпіс на помніку:

**Белорусский Беллетристъ**
**Сергей Епифановичъ ПОЛУЯНЪ**
**Род. ... 1890 г. Ум. ... 1910 г.**

Даты нараджэння і смерці, як назло, на ўсіх здымках закрыты праслам агароджы. А заглянуць за прасла вельмі хочацца: дакладна вядома, калі С. Палуян памёр (7 красавіка — па старому стылю — 1910 г.), вядома і ў якім годзе ён нарадзіўся, але пакуль што ніхто не ведае, у якім месяцы і якога чысла. Паспрабуй у такім выпадку адзначыць юбілейную дату пісьменніка! Гэтую дату, як і месца нараджэння, не можа назваць і Надзея Уладзіміраўна.

— А вось Сяргей Палуян у труне,— гаворыць Надзея Уладзіміраўна, разгортваючы альбом на новай старонцы.

Боль працінае сэрца, калі глядзіш на два гэтыя здымкі — адзін хутчэй за ўсё аматарскі, а другі прафесійны,— зробленыя ў розных месцах (па ўсёй верагоднасці, дома, адразу пасля смерці, у капліцы пры Анатамічным тэатры, куды даставілі затым цела нябожчыка). Прыгожы малады твар з рэдкімі вусікамі і бародкаю... Ледзь прыадкрыты рот, востры нос... З ілба спадае каштанавая хваля густых кучаравых валасоў... Каб не труна, якая патанае ў кветках, не традыцыйная папяровая «стужка нябожчыка», што аблегла яго высокі лоб, можна было б падумаць: чалавек спіць...

— Магчыма, ваш бацька зберог і якія-небудзь рукапісы Сяргея Палуяна? — адрываемся мы ад горкіх думак, вяртаючыся да сённяшніх клопатаў. Са спадчыны С. Палуяна вядома пакуль што няшмат: два апавяданні, два дзесяткі публіцыстычных і крытычных артыкулаў — тое, што асела на старонках дарэвалюцыйнай беларускай і ўкраінскай перыёдыкі. Задаючы пытанне Надзеі Уладзіміраўне, мы, як і ў выпадку з фотаздымкамі, разлічваем на неспадзеўку: а раптам у рукі

Уладзіміра Фёдаравіча трапілі і некаторыя палуянаўскія рукапісы? Паводле сведчанняў сучаснікаў, С. Палуян апрача артыкулаў і рэцэнзій пісаў «вершы з багатым зместам, апавяданні на сучасны лад», п'есы для тэатра, складаў «зборнік цудоўных малюнкаў-сімвалаў» для дзяцей, хрэстаматыю па гісторыі Беларусі, навукова-папулярныя кніжкі для народа... Куды ўсё гэта падзелася? Дзе зараз знаходзіцца?

Надзея Уладзіміраўна адмоўна хістае галавою: маўляў, не, нічога няма. Выказвае здагадку: можа, што-небудзь і было, ды бацька паслаў услед за фотакарткамі ў Мінск, у музей Янкі Купалы, а яно недзе загубілася...

— Застаўся толькі дарэвалюцыйны сшытак бацькі, у які ён упісваў свае любімыя вершаваныя творы,— кажа Надзея Уладзіміраўна.— Аднак там, наколькі мне помніцца, твораў Сяргея Палуяна няма.

Просім паказаць гэты сшытак...

Вучнёўскага фармату агульны сшытак (дакладней, частка сшытка, бо ў ім няма вокладкі, амаль паловы старонак) акуратна запоўнены вершамі на беларускай, украінскай і рускай мовах. Адразу ж, на першай старонцы,— «Песня пра князя Ізяслава Полацкага» М. Багдановіча, затым ідуць вершы Я. Купалы «Памяці С. Палуяна» (!) і «Песня званара», К. Буйло «Не глядзі на мяне», Т. Шаўчэнкі «Раве ды стогне Днепр шырокі», «Запавет» і «Дума» (з паэмы «Нявольнік»), асобныя творы А. Крымскага, А. Пушкіна (урывак з «Руслана і Людмілы»), М. Лермантава («Малітва»)... У другой палове сшытка — рускія рэвалюцыйныя песні і вершы: «Похоронный марш» («Вы жертвою пали в борьбе роковой»), «Народовольнический гимн» («Смело, друзья, не теряйте...»), «Дубинушка», «Машинушка», «Колыбельная песня», «Пловец» М. Языкава і інш. Змест сшытка, напісанне (з «яцямі», цвёрдымі знакамі), іншыя прыкметы (на адной старонцы, напрыклад, стаіць дата: 8.II.1912 г.) паказваюць, што запісы рабіліся недзе на пачатку 10-х гадоў нашага стагоддзя.

На жаль, ніводнага твора С. Палуяна ў сшытку няма. Магчыма, яны былі на старонках 35-80, вырваных са сшытка (у ім усе старонкі пранумараваны)? Можа, у адказ на просьбу купалаўскага музея У. Ф. Бахонка вырваў са сшытка вершы Палуяна (каб не перапісваць) і паслаў іх у Мінск разам са сваімі ўспамінамі пра стрыечнага брата? Пра ўсё гэта цяпер можна толькі здагадацца.

У той жа час рукапісная паэтычная анталогія стрыечнага брата Сяргея Палуяна можа расказаць тое-сёе і пра самога пісьменніка: яго літаратурныя ўпадабанні, рэвалюцыйна-дэмакратычны светапогляд, круг чытання і г. д. Відавочна, і Сяргея Палуяна даймалі тыя праб-

лемы, над якімі задумваўся пазней яго брат, калі ўпісваў у сшытак не толькі вершы, але і некаторыя афарыстычныя выказванні, накшталт:

Нужно учиться без всякой задней мысли, из одного глубокого убеждения, что образование небходимо, как пища. Пирогов.

Без знания языков чувствуешь себя, как без паспорта. Ант. Чехов (от себя: нужно над этим подумать).

Решайтесь делать то, что вы должны делать, и делайте непременно то, на что вы раз решились (от себя: даже, если бы это было самоубийство?!).

—Больш нічым вас парадаваць я не магу,— гаворыць Надзея Уладзіміраўна, пераймаючы нашы запытальныя позіркі. Потым спакойна дадае: — Можа, што-небудзь захавалася ў Людмілы Епіфанаўны. Сяргеевай сястры...

—Як у сястры? У якой сястры? — у адзін голас усклікаем мы, не верачы сваім вушам.

—У роднай сястры Сяргея Палуяна,— тлумачыць Надзея Уладзіміраўна, яўна не разумеючы прычыну нашай раптоўнай узбуджанасці.

—Жыве яна тут, у Кіеве, адна... З паўгода таму назад гаварыла з ёй па тэлефоне. Потым, чуваць было, яна хварэла. Вось вам, калі хочаце, яе адрас...

Як доўга цягнулася тая кіеўская ноч на пачатку сакавіка 1984 года! Як мы прыспешвалі раніцу, як чакалі досвіткавых агнёў!

Раніцою пачалася раптоўная адліга. Снег перайшоў у дождж, пад нагамі — вадзяністае месіва, па асфальце хлынулі брудныя патокі. Аднак, расшукваючы запаветны дом, мы не зважалі ні на снежна-дажджавую «хляпстку», ні на фантаны пырскаў з-пад аўтамабільных колаў, ад якіх цяжка было схавацца на вузкім гарыстым ходніку. У душы былі радасць і трывожнае чаканне.

Нарэшце ў глыбіні двара ўбачылі невысокі дом — той, які і шукалі. Па цёмных сходках падняліся ў камунальную кватэру, яшчэ, відаць, даваеннай планіроўкі: з даволі прасторнай вітальнай, высокай шэрай столлю... Сусед па кватэры, стары заклапочаны яўрэй, правёў нас у пакой Людмілы Епіфанаўны.

За стадом у акулярах сядзела і чытала кніжку сухенькая бабулька ў паношанай сукенцы (зрок выхапіў назву ўкраінскага выдання: В. Віноградський. Різними дорогами). На наша вітанне яна адарвала позірк ад кнігі і здзіўлена-ўважліва паглядзела на нас. Збіваючыся, у два галасы тлумачым, хто мы, чаго прыйшлі. Тады замітусілася, захвалявалася яна, пачала хутка, перакідваючыся з аднаго на другое, ад хвалявання яшчэ больш шапялявячы, гаварыць, гаварыць...

— Сяргей... Сярожа.. чаму ж не помню! Мы з ім былі надта падобныя, абое па маме пайшлі... А як вы знайшлі мяне?.. Сёння такое надвор'е: не пі, не еж і з хаты не лезь, як у нас казалі. А я ўжо даўно і не выходжу з хаты, хіба што ўлетку калі. Узяла на кватэру дзяўчыну, яна мне і з магазіна што прынясе, смецце вынесе... Суседзі, дзякаваць богу, таксама пасабляюць... Чытаю вось кніжкі, часу цяпер хапае, не тое што раней, калі ў банку рабіла. Усё, лічы, жыццё ў Кіеве ў банку прарабіла, адтуль і на пенсію пайшла...

Просім расказаць пра Сяргея.

Людміла Епіфанаўна маладзейшая за брата на пяць гадоў. Зразумела, ёй найбольш запомнілася тое, што звязана з раннім дзяцінствам.

— Помню,— прыгадвае яна,— як аднойчы бацька сказаў: «Ну, дзеткі, хопіць лынды біць, пара за кніжку брацца. А настаўнікам вашым будзе Сяргей. Вы павінны слухацца яго, выконваць усе яго заданні...» На гэтым і скончылася наша бесклапотнае дзяцінства. Сяргей быў вельмі разумны. Як настаўнік, быў строгі і патрабавальны, і мы пабойваліся і слухаліся яго. Але каму хацелася ў тыя нашы гады сядзець з кніжкай? Стараліся збегчы ў сад, ды гэта нам не заўсёды ўдавалася. Пачыналіся зноў заняткі. Сяргей не даваў нам спуску, патрабаваў вучыць розныя заданні. Бывала, на дзвярах свайго пакоя тлуста выведзе вуглем літару «Ф» і тых, хто не выконваў заданні, прымушаў «лізаць ферта». Ой як баяліся мы гэтага! Без слёз не абыходзілася, але ён быў няўмольны. Нават умяшанне мамы мала памагала.

Людміла Епіфанаўна расказвае, як пасля ўрокаў Сяргей выходзіў на двор пагуляць з дзецьмі. Узімку яны рабілі снежную горку, каталіся з яе, а вечарам ладзілі сямейныя канцэрты. У Сяргея быў добры музычны слых і прыемны барытон. Разам з дзецьмі ён развучыў рэвалюцыйныя песні. Якія? «Отречемся от старого мира», «Варшавянку», «Смело, товарищи, в ногу» і іншыя. Са сваімі сябрамі Сяргей быў ветлівы. Яго абаяльнасць прыцягвала людзей, і ён быў заўсёды ў кругу сяброў. Гаварыў Сяргей і дома, і з сябрамі, з суседзямі толькі пабеларуску.

Цікава, дзе і дакладна калі Сяргей нарадзіўся?

— У Брагіне, так, як Ганна, Жэня і Зіна,— проста адказвае Людміла Епіфанаўна, а мы ўзрадавана пераглядваемся: ні ў адным з артыкулаў пра Сяргея Палуяна Брагін як месца нараджэння дагэтуль не згадваўся. Помніцца, у нейкім з некралогаў гаварылася, што «выдала яго зямля Пінская», затым на той падставе, што бацька яго ў «Памятной книжке Минской губернии на 1904 год» запісаны «горада Рэчыцы

мешчанінам», сталі лічыць: нарадзіўся С. Палуян у Рэчыцы... Што да «калі», то памяць сястры захавала толькі год: 1890. Дату не помніць. «Недзе восеннюю»,— няпэўна кажа яна.

— А вучыўся дзе? — на адным дыханні задаём новае пытанне Людміле Епіфанаўне. Тут таксама поўнае няведанне. У свой час, праўда, было выказана меркаванне, што Палуян, мабыць, займаўся ў Кіеўскім універсітэце, аднак архівы не пацвердзілі здагадку.

Людміла Епіфанаўна ўносіць яснасць і ў гэта пытанне. У скупой палуянаўскай біяграфіі знікае яшчэ адна белая пляма. Аказваецца, Сяргей Палуян вучыўся ў Мазырскай шасцікласнай прагімназіі. Такім чынам у біяграфіі пісьменніка дакладна «прапісваецца» яшчэ адзін населены пункт, стары беларускі горад на прыгожых прыпяцкіх схілах, а Мазыр тым самым яшчэ адной повяззю лучыцца з гісторыяй роднай літаратуры. Аднак, як высвятляецца, не толькі з ёй...

Якраз у Мазыры гімназіст упершыню звязаўся з рэвалюцыйным рухам, там, відавочна, вывучыў і рэвалюцыйныя песні. Людміла Епіфанаўна прыгадвае: калі Сяргей прыязджаў з Мазыра дахаты на святы ці на канікулы, а жылі яны тады ў Крышычах (цяпер Калінкавіцкі раён Гомельскай вобласці), то ён вёў рэвалюцыйную прапаганду ў навакольных вёсках. Аднойчы з Юравіч да іх заязджаў валасны прыстаў і пагражаў арыштаваць Сяргея. Пасля гэтага бацька адправіў сына вучыцца ў Мітаву (вось куды яшчэ завялі С. Палуяна яго жыццёвыя шляхі!). У Мітаве ў той час жылі два родныя браты Аляксандры Дзмітрыеўны — Сцяпан і Вікенцій. Абодва яны ў свой час скончылі Віленскі настаўніцкі інстытут. Сцяпан выкладаў рускую мову і гісторыю ў нямецкай класічнай гімназіі, а Вікенцій працаваў інспектарам Аляксандраўскага мужчынскага вучылішча. Дзядзькі дапамагалі сваім пляменнікам атрымаць сярэднюю адукацыю. Вось чаму праз мітаўскія гімназіі і вучылішчы прайшлі літаральна ўсе Палуянавы дзеці. Вось чаму і Сяргея бацька адправіў у гэты далёкі латышскі горад.

Але рэвалюцыйна настроены падлетак трапіў, як гаворыцца, з агню ды ў полымя. У 1905 годзе ў Мітаве, як і ўсюды ў тагачаснай Расіі, пачаўся рэвалюцыйны рух. Сяргей актыўна ўключыўся ў гэты рух. За арганізацыю мітынгаў сярод моладзі яго ледзь не арыштавалі, вось-вось меліся выключаць з гімназіі. Нехта Багдановіч — дырэктар ці проста выкладчык гімназіі (Людміла Епіфанаўна не памятае), які добра ведаў Сяргея, бо ў яго на кватэры ён адзін час нават жыў,— папярэдзіў Епіфана Іванавіча пра небяспеку. Бацька прыехаў і забраў сына дадому. У знак салідарнасці з расстралянымі рэвалюцыйнымі рабочымі Сяргей з таго часу пачаў насіць сарочку чырвонага колеру. (Да-

рэчы, чырвоную сарочку бачыў на ім у Вільні ў 1909 годзе Цішка Гартны.)

Распытваем, як склаўся далейшы лёс Сяргея, што вымусіла яго пасля Крышыч паехаць восенню 1908 г. у Кіеў (якраз тады ўпершыню яго ўбачыў у Кіеве адзін украінскі пісьменнік).

Людміла Епіфанаўна не запомніла ад'езд Сяргея з дому. А можа, яе ў гэты час дома і не было?.. Так, хутчэй за ўсё яна ўжо была ў Мітаве: пачаліся заняткі ў гімназіі. А чаму якраз у Кіеў паехаў Сяргей, то гэта тлумачыцца, відаць, тым, што там ва Упраўленні Паўднёва-Заходняй чыгункі працаваў яшчэ адзін родны мамін брат, Акім, цудоўны чалавек, цікавы апавядальнік, жартаўнік. Там жыла і сям'я Фёдара Бахонкі. А, як кажуць, дзе свой, там і вецер не вее...

Ці дапамагаў бацька Сяргею матэрыяльна? Не. Чаму? Не было асабліва з чаго: усе дзеці вучыліся, а за вучобу трэба было дорага плаціць... Дзядзька Акім расказваў, што ў Кіеве Сяргей падзарабляў — пісаў сачыненні гімназістам старэйшых класаў, за якія тыя нязменна атрымлівалі пяцёркі, займаўся рэпетытарствам. Збіраўся здаць экстэрнам экзамены за поўны курс гімназіі, каб паступіць ва універсітэт. Аднак не паспеў зрабіць гэтага, налажыў на сябе рукі...

— Калі я ўжо заканчвала другі клас Мітаўскай гімназіі, з ім здарылася гэта вялікае няшчасце,— гаворыць Людміла Епіфанаўна, выціраючы слёзы.— Мы ўсе цяжка перажылі гора, а мама да самай сваёй смерці плакала па сыну. Яна з бацькам ездзіла на пахаванне Сяргея, прывезла з Кіева яго чырвоную касаваротку і ажно да смерці падкладвала яе пад падушку: а можа, Сяргейка прысніцца?..

— А Сяргея пахавалі на Байкавых могілках. Праз год, калі магіла асела, бацька помнік прыгожы паставіў. Помню, на ім быў надпіс «Белорусский беллетрист». Але яшчэ ў 30-х гадах тая частка могілак, дзе была Сяргеева магіла, адышла пад забудову...

Заўважаем, Людміла Епіфанаўна і нахваляваласл, і натамілася: гаварыць ёй стала цяжка, цяжэй стала і прыпамінаць. Што ж, гэта і не дзіўна: без малога ёй дзевяноста гадоў!

Задаём ёй яшчэ некалькі пытанняў і, нарэшце, тое, якое прыберагалі ад сустрэчы з Надзеяй Уладзіміраўнай Бахонка:

— А ці няма ў вас здымкаў Сяргея?

Расчараванне: не, цяпер няма. Да Айчыннай вайны ў яе былі тры Сяргеевы фотакарткі: у гімназічнай форме (калі вучыўся ў Мітаве), з таварышамі-гімназістамі і — апошняя — у труне. У маі 1941 г. да Людмілы Епіфанаўны завіталі ў Кіеве нейкія два беларускія пісьменнікі (прозвішчаў іх яна не помніць), распытвалі пра Сяргея, папрасілі картачкі, абяцалі перафатаграфаваць і тут жа вярнуць... Але праз

некалькі тыдняў пачалася вайна. Відаць, не толькі фотакарткі, але і самі пісьменнікі загінулі, бо з таго часу ніхто ніколі да яе з роспытамі пра брата не звяртаўся.

— Але ў мяне захаваўся сямейны здымак, зняты некалі ў Мазыры, на якім і Сяргей ёсць,— гаворыць Людміла Епіфанаўна і ідзе да серванта. Потым працягвае нам вялікую пажоўклую фатаграфію, акуратна наклееную на пашпарту.— Вось ён, крайні справа ў верхнім радзе.

На нас, як падалося, з хітрынкаю глядзіць жвавы хлопец гадоў трынаццаці — чатырнаццаці. На здымку ён адзін у гімназічнай форме. З твару вельмі падобны на маці — такія ж пранікнёныя вочы, нос, авал твару. На здымку, зробленым у мазырскай фотастудыі, уся палуянаўская сям'я. Людміла Епіфанаўна тлумачыць: у сярэднім радзе на лаве сядзіць іх дзед Іван Рыгоравіч Палуян, бацька і маці, старэйшая сястра Ганна. Знізу прымасціліся найменшыя: яна сама, сястра Ангеліна, браты Міця і Грыша. У верхнім радзе апрача Сяргея стаяць сёстры Зіна і Жэня.

— Дык колькі ж вас, дзяцей, усяго было? — шчыра здзіўляемся мы, гледзячы на фотакартку.

— Дзевяцёра, першая сястра Неаніла памерла зусім маленькаю. Васьмёра выжыла.

— А хто-небудзь апрача вас яшчэ жыве? — пытаемся асцярожна, спадзеючыся на цуд.

— Жывуць яшчэ Зіна і Ангеліна.

— ?!

— Ангеліна жыве ў Рызе, у Жэнінай сям'і, з якой яна, адзінокая, пражыла амаль усё жыццё. А Зіна разам са сваёй дачкой і зяцем жыве ў Ленінградзе. Канечне, і яны пра Сяргея могуць нешта расказаць, асабліва Зіна: яна на год старэйшая за мяне. Праўда, неяк пісала, што надта дрэнна адчувае сябе. І так яшчэ дзіўна, як трывае: яна ж ленінградскую блакаду перажыла!.. Паедзьце да іх. Я дам адрасы.

Кажуць, бяда адна не ходзіць... Але, відаць, і адна радасць за сабой другую водзіць: учарашняя прывяла сённяшнюю.

Дык хутчэй жа ў новую дарогу!

**След трэці. Рыга**

Поезд па дарозе на Рыгу праязджае Елгаву, колішнюю Мітаву. З акна вагона ўглядаемся ў невялікі, тыпова прыбалтыйскі гарадок з невысокімі акуратнымі мураванкамі, сярод якіх пракідаюцца дарэвалюцыйныя будынкі; праплываюць вузкія вулічкі з густымі прысадамі;

бліснула шкло рэчкі. Гэта ўсё некалі бачыў Сяргей Палуян, па гэтых вуліцах хадзіў, гэтым паветрам дыхаў. Хаця, мабыць, і вуліцы, і дамы, і само паветра тады былі інакшыя...

Рыга паказалася вострымі шпілямі сваіх кірхаў, сярод якіх велічна ўзвышаецца кап'ё Домскага сабора. Гулка забарабанілі колы па мосце праз Даўгаву. Не паспелі азірнуцца, як трапілі ў прывакзальную мітусню.

І вось мы ўжо гутарым з Ангелінай Епіфанаўнай. Трымаецца яна яшчэ даволі моцна, нягледзячы на свой паважаны ўзрост (у канцы 1983 г. ёй споўнілася восемдзесят пяць гадоў). Здалося спачатку, што сустрэла нас неяк насцярожана. Бліснула на нас сваім адзіным вокам (на другое аслепла яшчэ ў дзяцінстве): маўляў, хто вы такія, што цікавіцеся нашаю сям'ёй, я пра вас нічога не чула? Але, відаць, наша тлумачэнне яе больш-менш задаволіла. Ды і родзічы яе, з якімі яна жыве,— зяць Яўгеніі Епіфанаўны Сцяпан Антонавіч, яго дачка Кіра Сцяпанаўна і ўнук Міця — у размове прынялі самы жывы ўдзел і тым дапамаглі хутчэй пераадолець натуральны ў такім выпадку бар'ер адчужанасці. А калі высветлілася, што нябожчыца жонка Сцяпана Антонавіча, нядаўнюю смерць якой ён надта цяжка перажыў, перад вайною вучылася ў Кіеўскай кансерваторыі разам з бацькам аднаго з аўтараў гэтых радкоў, ранейшай насцярожанасці як і не бывала. Мы толькі шчыра шкадавалі, што росшукі нашы не прывялі ў Рыгу раней, гадоў дзесяць таму назад: Яўгенія Епіфанаўна жыла яшчэ ў 1972 годзе. А ў 1963 годзе жывою яшчэ была, і таксама пахавана ў Рызе, Ганна Епіфанаўна, самая старэйшая з Палуянавых дзяцей. Вось хто мог бы многае расказаць пра брата!

— Сестры Ганна і Жэня выйшлі замуж за родных братоў Мікалая і Канстанціна, сыноў вядомага ў той час мітаўскага юрыста Шаліна,— расказвае Сцяпан Антонавіч.— Ганна і Мікалай павянчаліся раней. А вось вянчанне Яўгеніі і Канстанціна перарасло ў цэлую гісторыю. Праваслаўнае духавенства катэгарычна адмовілася вянчаць такіх блізкіх сваякоў, хоць яны і не крэўныя былі. Канстанціну Шаліну давялося доўга хадайнічаць перад рознымі духоўнымі інстанцыямі, нават пагражаць пераходам з праваслаўя ў лютэранства, перш чым ён атрымаў дазвол на шлюб.

— Вось якія былі мужчыны, не тое што цяпер! — жартуе Кіра Сцяпанаўна. У яе жарце чуецца непадробны гонар за дзеда.

— А хіба жанчыны былі горшыя? — у тон ёй патрапляе Сцяпан Антонавіч.— Вунь наша Ангеліна Епіфанаўна з залатым медалём Мітаўскую гімназію скончыла, у Чырвонай Арміі ў час грамадзянскай вайны медсястрою служыла, колькі раненых выратавала!..

— І тады ўсялякія людзі былі, і цяпер,— на сур'ёзны лад пераводзіць гаворку Ангеліна Епіфанаўна.— Вунь Сяргей не захацеў перад абставінамі стаць на калені, не скарыўся ім. А колькі было тых, што перад царскімі ўладамі ракам поўзалі, абы жыць хоць як-небудзь...

Пераводзім гутарку на Сяргея Палуяна.

— Сяргея я памятаю, але не так, відаць, як Людміла і асабліва Зінаіда,— малою была,— пачынае свой расказ Ангеліна Епіфанаўна.— Гэта ж мне яшчэ і дзесяці не было, калі я апошні раз яго бачыла. Сяргей мне запомніўся вельмі добрым, клапатлівым братам. Нас, меншых, ён вучыў чытаць і пісаць. Куплёных цацак у нас не было, і ён гуляў з намі ў «хлопчыкі» — самаробныя лялькі. А то, бывала, выведзе нас, малых, у сад, пасадзіць у рад і давай развучваць з намі песні. А песні былі ўсё больш рэвалюцыйныя — «Марсельеза», «Варшавянка»... Зразумела, мы тады не ведалі, што гэта рэвалюцыйныя песні, проста спявалі, і ўсё... Чытаў нам Сяргей на памяць розныя кніжкі, у тым ліку і беларускія. З таго часу многае запомнілася.

Ангеліна Епіфанаўна пачынае чытаць па памяці «Тараса на Парнасе». У рыжскай кватэры ў добрым вымаўленні гучыць беларускае слова, льюцца вершаваныя радкі пра палясоўшчыка Тараса і яго прыгоды.

— Наша Ангеліна Епіфанаўна і цяпер запоем чытае беларускія кніжкі,— умешваецца ў размову Кіра Сцяпанаўна.— Нядаўна «Людзі на балоце» Івана Мележа чытала, не адарваць было. Кажа, Курані — гэта быццам іх Крышычы...

— А чаму б і не Крышычы? Той жа Юравіцкай воласці... А Глінішчы, у якіх нарадзіўся Мележ, за некалькі кіламетраў ад Крышыч. Мы ў бок Глінішчаў у ягады бегалі.

Гутарка пераходзіць на Крышычы, у якіх нарадзілася сама Ангеліна, а таксама браты Дзмітрый і Рыгор. Ангеліна Епіфанаўна добра помніць бацькоўскую сядзібу, бо не толькі вырасла ў ёй, але і жыла там пэўны час разам з бацькамі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. На яе руках у 1922 г. ад сухотаў памерла ў Крышычах маці Аляксандра Дзмітрыеўна. Пахавалі яе на юравіцкіх могілках.

Маёнтак Крышычы Епіфан Іванавіч Палуян купіў пасля нядоўгай арэнды Астраглядаў, што пад Брагінам (там, дарэчы, нарадзілася Людміла). Ад ранейшага гаспадара да пакупніка перайшла не толькі зямля, але і дом, розныя гаспадарчыя будынкі і хатка для парабкаў. Усё гэта было закладзена ў Віленскім зямельным банку. Епіфан Іванавіч, не могучы выплаціць даўгі, на якія штогод нарасталі працэнты, збываў пакрысе зямлю, а перад самай сусветнай вайной прадаў і дом; сям'я перабралася ў былую хатку для парабкаў.

— У беларускім друку неяк з'явілася выказванне, што бацька Сяргея Палуяна быў багацей, купец,— прыгадваем мы домыслы аднаго літаратуразнаўца.

— Лухта! Ніколі ён купцом не быў, працаваў на зямлі,— адразу парыруе гэты домысел Ангеліна Епіфанаўна.— Прычым парабкаў не трымаў, сваёй сям'ёй з усім упраўляліся... Вечна ў даўгах сядзелі... Дзяцей не было за што вучыць. Адну толькі Зіну бацька адважыўся ў вышэйшую навуку пусціць.

— Дзмітрый і Рыгор таксама ж мелі вышэйшую адукацыю,— падказвае Кіра Сцяпанаўна.

— Дык гэта ўжо не бацькава заслуга,— тлумачыць Ангеліна Епіфанаўна.— Пасля рэвалюцыі яны абодва апынуліся ў Заграбе, там скончылі нафтахімічны інстытут, пасля працавалі ў Аргенціне на нафтапромыслах. Дзмітрый і памёр там у канцы 20-х гадоў ад сухотаў. А Рыгор, чуваць было, вярнуўся ў Еўропу, адзін час жыў у Галандыі, а ў час апошняй вайны загінуў...

— Бурныя падзеі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны куды толькі не параскідалі сям'ю Палуянаў!— падтрымлівае гутарку Сцяпан Антонавіч.— Людміла асела ў Кіеве, Ганна — у Рызе, Зінаіда — у Ленінградзе, Яўгенія і Ангеліна жылі спачатку ў Кіеве, пасля ў Кішынёве, а потым апынуліся ў Рызе... Не толькі адлегласць, але і нацыянальная прыналежнасць раздзяліла родных сясцёр: Ганна і Зінаіда запісаліся рускімі, Яўгенія — украінкай, а Людміла і Ангеліна лічаць сябе беларускамі...

Ангеліна Епіфанаўна, усё больш ажыўляючыся, пачынае апісваць крышыцкі дом, у якім жыла вялікая сям'я Палуянаў. Дом ранейшага гаспадара для новай мнагадзетнай сям'і аказаўся замалы, і Епіфан Іванавіч прыбудаваў да яго трысцен, у якім размясціліся кухня, сталовая і два невялікія пакойчыкі — дзеда Івана Рыгоравіча (ён жыў разам з сынам) і Сяргея. Пакойчык Сяргея быў квадратны, з адным акном, у ім нічога лішняга: ложак, пісьмовы стол і невялікая этажэрка з кніжкамі.

У кухні стаяла вялікая варыстая печ і пліта, на сцяне была прыбіта шафка з дзверцамі. Гэта былі валоданні Аляксандры Дзмітрыеўны, якая на ўсё наваколле славілася сваімі кулінарскімі здольнасцямі. Яна ведала мноства беларускіх нацыянальных страў і гатавала іх вельмі смачна.

Пад акном сталовай расла бяроза, што нагадвала сабой плакучую іву, а каля Сяргеевага пакоя — вішня. Страха над сталовай і пакойчыкам Сяргея была плоская, дзеці часта ўзбіраліся на яе і ладзілі там розныя забавы.

У хаце было многа вазонаў. У палісадніку перад хатай раслі кветкі. Вазоны і кветкі даглядалі ў асноўным дзеці, у тым ліку і Сяргей.

Веранду з каляровым шклом абвіваў дзікі вінаград. Па сценах хаты ажно да страхі віліся «кручаныя панічы».

Каля хаты быў сад, у якім расло некалькі яблынь, многа груш і жоўтых сліў. За садам ішоў агарод, а далей раскінуўся поплаў. На лузе блішчэла на сонцы невялікая сажалка, у якой вечна плавалі гусі.

З апісання Ангеліны Епіфанаўны жыва паўстаюць ва ўяве сядзіба, абстаноўка ў хаце, малюнкі прыроды, сярод якіх вырастаў Сяргей Палуян і якія, несумненна, уплывалі на яго густы, упадабанні, нарэшце — светаўспрыманне і светаразуменне.

— Памятаю, як зімой, на каляды, прыходзілі да нас вясковыя хлопцы і дзяўчаты — калядаваць. Нават запомніла адну песню, якую яны пелі Сяргею,— гаворыць Ангеліна Епіфанаўна, а потым пачынае ціха напяваць:

У нашага Сярожанькі явар на дварэ,
Явар на дварэ — тонкі, высокі,
Тонкі, высокі, лістом шырокі.
На тым явары сівы сокал сядзіць,
Сівы сокал сядзіць, далёка глядзіць.
як далёка? На сіне мора.
На сінім моры да сем караблёў,
Сем караблёў, усе на парусах.
Прыйшла да Сярозканькі мамачка яго:
— Уставай, Сярожа, уставай сыночак,
Усе твае караблі туркі забралі,
Сястрычку Анютку з сабою павезлі.

— Затым прыходзілі малыя дзеці са «звяздою», крыху большыя — з «казой», выварочвалі кажух, рабілі «казу» і спявалі,— працягвае Ангеліна Епіфанаўна.— Дарослыя хлопцы прыходзілі з канём. Там быў і цар Максімільян, і царыца, і кравец, і іншыя асобы.

Дык вось, аказваецца, адкуль чэрпаў Сяргей Палуян веданне народнага тэатра, якое пасля выявілася ў яго тэатразнаўчых артыкулах! З крышыцкага маленства пасялілася ў яго душы і любоў да тэатра, якая затым вырасла ва ўпэўненасць, што ў своеасаблівых умовах духоўнага адраджэння Беларусі «ён будзе ўсім адначасова — і нацыянальнаю школаю, і асветным таварыствам, і клубам, і, што найгалоўней, імпульсам для развіцця мастацтва наогул і літаратуры ў прыватнасці» («Беларускія вечарыны»).

—А што яшчэ пра Сяргея вы можаце канкрэтна прыгадаць? — пытаемся ў Ангеліны Епіфанаўны?

—Запомнілася апрача сказанага, як да Сяргея прыходзілі мясцовыя сяляне,— гаворыць яна.— Яны разам ішлі на луг, у гай, пра нешта там гаварылі. Пасля такіх сустрэч бацька звычайна сварыўся на Сяргея, якога дагэтуль за рэвалюцыйныя погляды выключылі з Мазырскай прагімназіі. Відаць, і з мясцовымі сялянамі Сяргей вёў не зусім бяскрыўдныя размовы... Дарэчы, памяць пра Сяргея ў Крышычах жыла яшчэ пасля рэвалюцыі. Епіфана Іванавіча сяляне не кранулі, помнячы пра сына-рэвалюцыянера... А ўвогуле, я была наймяншай з сясцёр і таму Сяргея запомніла горш, чым яны.

У канцы размовы гартаем стары фотаальбом. У ім бачым фотакарткі ўсіх сясцёр, братоў Сяргея, але здымка яго самога, на жаль, не знаходзім. «Відаць, і не было»,— прысудам гучаць словы Ангеліны Епіфанаўны.

—Можа, што-небудзь захавалася ў нявесткі Ганны Епіфанаўны,— выказвае яна меркаванне.— Жыве яна тут, у Рызе... Дарэчы, яе нябожчык муж Анатоль Мікалаевіч Шалін, юрыст па адукацыі, да самай смерці складаў сямейную хроніку. І да мяне звяртаўся, і да іншых. Магчыма, і пра Сяргея там невядомае знойдзецца.

У каторы ўжо раз мы падумалі: як яшчэ шмат можна знайсці невядомых матэрыялаў пра нашых нават дарэвалюцыйных пісьменнікаў! Варта толькі не спаць у шапку, а шукаць, пакуль не позна, пакуль не адышлі зусім сучаснікі і сваякі гэтых майстроў слова, пакуль беззваротна не страчаны унікальныя дакументы.

Пра гэта мы думалі і тады, калі, шчыра развітаўшыся з Ангелінай Епіфанаўнай і яе сваякамі, ехалі на трамваі ў далёкі рыжскі мікрараён і калі праглядалі пераблытаныя, напалову згубленыя лісткі «сямейнай хронікі» А. М. Шаліна, якую ласкава паказала нам яго жонка Аляксандра Кірылаўна. На жаль, запіс пра Сяргея Палуяна ў гэтай хроніцы надзвычай скупы — у некалькі радкоў — і не зусім дакладны. Аўтар запісу не меў уяўлення пра друкаваныя працы свайго роднага дзядзькі, пра месца, якое ён заняў у гісторыі беларускай літаратуры. У той жа час вялікую цікавасць уяўляе апісанне роду Палуянаў, а таксама Крышыч, у якіх, як аказалася, А. М. Шалін жыў з лета 1918 г. па восень 1920 г. Гэтае апісанне ў тым-сім дапоўніла і канкрэтызавала расказ Сяргеевых сясцёр...

Так, мы, у прыватнасці, даведваемся, што продкі пісьменніка — брагінскія прыгонныя сяляне. Дзед яго Іван Рыгоравіч Палуян (1828-1914) нарадзіўся таксама яшчэ прыгонным. Займаўся агародніцтвам і садоўніцтвам, жыў у самім Брагіне, па другі бок ракі Брагінкі, у так званым «другім канцы», ва ўласнай хаце. Адзін час ён служыў у воласці і зямлю атрымаў ад урада «за добрую службу». У хаце дзеда і

нарадзіўся Сяргей, а таксама сестры Ганна, Жэня і Зіна. Недалёка ад дома дзеда знаходзіліся развалiны палаца князёў Вішнявецкіх, знакамітыя тым, што ў «смутное» время» пры цару Барысу Гадунове жыла там Марына Мнішак, будучая жонка Дзмітрыя Самазванца.

Бацька і маці Сяргея Палуяна нарадзіліся таксама ў Брагіне. У першыя гады пасля вяселля Епіфан Іванавіч Палуян (1866-1936) займаўся дробным аптовым прадуктовым гандлем, справы ў яго ішлі някепска, але аднойчы яго дарэшты абакралі цыганы. Зладзеяў так і не знайшлі. Пасля гэтага выпадку Епіфан Іванавіч пераехаў у Астрагляды, з дапамогай свайго бацькі і сумесна з братамі жонкі Сцяпанам і Фёдарам узяў у арэнду тамтэйшы маёнтак. Ды з жончынымі братамі не ўжыўся, да гэтага Фёдар Бахонка аднойчы ў мяцеліцу заблудзіўся, моцна застудзіўся, захварэў на скарацечныя сухоты і памёр. На новы тэрмін Епіфан Іванавіч арэнды не аднаўляў, а купіў сабе частку маёнтка Крышычы ў тым жа Рэчыцкім павеце.

У запісах А. М. Шаліна пададзена падрабязнае апісанне маёнтка, гаспадаркі Епіфана Іванавіча: хаты, гаспадарчых будынкаў, навакольнай прыроды і г. д. А. М. Шалін піша: «Наколькі я памятаю, дзед у сябе парабкаў не трымаў, спраўляўся па гаспадарцы сам. У яго быў добры, спраўны сельскагаспадарчы інвентар: розныя плугі, бароны, касілкі, жняяркі, граблі і г. д. Дзед сачыў за сваімі прыладамі і дапамагаў імі сваім суседзям. Прычым рабіў ён гэта заўсёды бясплатна і безадмоўна. Ён дапамог завесці ў вёсцы белых ёркшырскіх свіней, даваў сялянам гатунковае насенне на развод і г. д. Мясцовыя сяляне таксама добра адносіліся да дзеда, у цяжкія моманты не пакідалі яго без дапамогі».

Дык чаму ж, у такім разе, сын Епіфана Іванавіча Сяргей паміраў у адзіноце і галечы, без бацькоўскай дапамогі? Адразу на гэта пытанне ў запісах А. М. Шаліна няма.

Можа, Зінаіда Епіфанаўна растлумачыць?..

**След чацвёрты. Ленінград**

Мы прыехалі ў Ленінград ранняй вясною, напярэдадні 8-га Сакавіка. Пад нагамі — вадою набрынялы снег, у паветры і марозна, і сыра. Раён, дзе жыве Зінаіда Епіфанаўна, знаходзіцца даволі далёка ад цэнтра горада. Да таго ж у даведачным бюро не зусім дакладна сказалі, як туды дабрацца. Усё гэта яшчэ больш узмацняе наш трывожны настрой: ці ўдасца сустрэцца з Зінаідай Епіфанаўнай? Ці здаровая яна?

Як выявілася пазней, мы, даверыўшыся даведцы, ехалі зусім у іншым кірунку. І тады пасажыры аўтобуса, ветлівыя, шчырыя — сапраўдныя ленінградцы!— ледзь не ў адзін голас пачалі «папраўляць» абыякавую службоўку адраснага бюро. Чалавечая спагадлівасць зрабіла сваё: мы ўсё часцей пачалі заўважаць, як праз аўтобусныя вокны ўрываўся гарачы водбліск ад маленькіх апельсінавых сонцаў, ад залата нарцысаў і мімозы, якія прадаваліся амаль на кожным скрыжаванні, на кожным прыпынку. Ленінград рыхтаваўся да свята, узнёслы настрой яго жыхароў пачаў перадавацца і нам...

Дзверы ў кватэру адчыніла невысокая, энергічная жанчына з добрым адкрытым тварам.

— Вы да Зінаіды Епіфанаўны? Так, яна дома, заходзьце, калі ласка... Я яе дачка, будзем знаёмы: зваць, як і маці, Зінаідай, а бацька быў Уладзімір... З Беларусі прыехалі? Цікавіцеся Сяргеем Палуянам? Мама, прымай гасцей, сваіх землякоў!..

Зінаіда Епіфанаўна — старэнькая, худзенькая, уся беленькая, аж свіціцца — што матылёк. Валасы акуратна зачэсаны; светлыя разумныя вочы, інтэлігентны твар, увесь пакрыты павуцінкамі зморшчынак...

На дзіва ясны розум, прыгожае рускае маўленне ў яго традыцыйным ленінградскім (у адрозненне ад маскоўскага) варыянце.

— Дык вы пра Сяргея шукаеце звесткі? Значыць, не забылі пра яго ў роднай Беларусі? З усіх пяцярых дзяцей, малодшых за Сяргея, я была найбліжэй да яго — і па ўзросту, і, відаць, па характары... Сяргей быў маім самым любімым братам.

Голас Зінаіды Епіфанаўны задрыжэў, вочы павільгатнелі. Зяць Сяргей Мікалаевіч тут жа збегаў у кухню, прынёс шклянку вады.

Мы сядзелі, баючыся паварушыцца., Ціха пашоргваў наш магнітафон. Нясмела абзываўся ярка-жоўты кенар з падвешанага на шырокім — ва ўсю сцяну — акне адмысловага доміка-клеткі.

Паступова Зінаіда Епіфанаўна супакойваецца. Спакваля пачынае прыгадваць малюнкі далёкага дзяцінства.

— З Сяргеем разам мы жылі толькі ў дзяцінстве, у дашкольным узросце,— расказвае яна.— Апрача гэтага я бачылася з ім, калі ён прыязджаў у нашы Крышычы на канікулы і святы з Мазырскай прагімназіі. Я як зараз бачу прыгожага, кучаравага, блакітнавокага юнака, нейкага надта сур'ёзнага, які вылучаўся з усіх іншых дзяцей. Асобныя рысы яго характару, такія, як праўдзівасць, справядлівасць і настойлівасць, ужо тады, у раннім дзяцінстве, былі выразна відаць у ім і засталіся з ім да канца яго кароткага жыцця.

Зінаіда Епіфанаўна з замілаваннем пачынае згадваць Крышычы...

Крышычы належалі раней пану Ліхачэўскаму — гуляку і карцёжніку. Маёнтак быў закладзены ў Віленскім зямельным банку, доўг пана ўвесь час рос, і вось-вось панская зямля павінна была адысці да банка. Ліхачэўскаму нічога не заставалася, як за паўцаны спусціць маёнтак, тым больш, што ён быў няважны: будынкі старыя, ворнай зямлі няшмат, больш драбналессе, няўдобіца... Наогул, мясцовыя паны гаспадары былі кепскія, але добрыя гулякі. Часта разараліся. «Прадаў Шарэйкі за тры капейкі»,— жартавалі над суседнім панам з вёскі Шарэйкі, якога напаткаў лёс Ліхачэўскага.

Вось так арандатару Епіфану Іванавічу Палуяну надарылася магчымасць не толькі «прыдбаць зямлю, набыць свой кут, каб з панскіх выблытацца пут» (Я. Колас), але нават самому стаць панам! І Епіфан Іванавіч магчымасці не ўпусціў. Ён сабраў усе грошы, якія мог,— пасажныя, зберажоныя, пазычаныя, бацькоўскія (бацька яго дзеля гэтага развітаўся нават са сваім домам у Брагіне і кавалкам добрай зямлі),— і за адносна невялікую цану набыў Крышычы (не ўвесь маёнтак, а толькі тую частку, якая належала Ліхачэўскаму). На Палуяна пераходзіў банкаўскі доўг — звыш васьмі тысяч рублёў.

Прызнаемся, што пра ўсе гэтыя падрабязнасці куплі-продажу Крышыч і валодання маёнткам Палуянамі мы даведаліся найперш ад маўклівых сведак тых далёкіх падзей — дакументаў, што і зараз захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным архіве БССР (ф. 1595, воп. 2, спр. 2308). Даведаліся пазней. Тады ж, у Ленінградзе, як перад тым у Кіеве і Рызе, мы слухалі найбольш пра паэзію дзяцінства, пра прыгажосць Крышыч з іх лясамі, лугамі, садамі, сажалкаю... Праўда, ва ўражлівую дзіцячую душу Зінаіды запалі і тагачасныя сямейныя клопаты, у тым ліку і матэрыяльныя.

Бацька, купляючы маёнтак, відаць, не разлічыў сваіх сіл. Трэба было аддаваць пазычаныя ў сваякоў грошы, рамантавацца і будавацца, утрымліваць вялікую сям'ю, плаціць за вучобу дзяцей. Трэба было двойчы ў год аддаваць банку пазыку. А тут яшчэ аказалася, што пан Ліхачэўскі пабмануў «пана» Палуяна: 2/3 прададзенай зямлі не належала поўнасцю прадаўцу, а ўваходзіла «ў склад сервітутнай прасторы сялян вёскі Крышычы», што ў хуткім часе і даказалі сяляне праз суд. Епіфан Іванавіч, каб звесці канцы з канцамі, паступова збывае маёмасць, жывёлу, потым пачынае па частках прадаваць зямлю, развітваецца нават з домам... Ды толькі Кастрычніцкая рэвалюцыя, якая нацыяналізавала зямлю, ліквідавала ўсе банкаўскія даўгі, выратавала яго ад поўнага банкруцтва.

Аднак давайце вернемся да паэзіі дзяцінства.

— У раннім дзяцінстве мы гулялі з Сяргеем у самаробныя лялькі — «хлопчыкі», якія прыдумаў ён сам,— гаворыць Зінаіда Епіфанаўна і ўсміхаецца куточкамі вуснаў.— Гэта былі палачкі, якія мы абкручвалі анучкамі (штаны, сарочка — для мужчыны, хустка, спадніца — для жанчыны), заматвалі ніткамі. Жывёлу рабілі з бульбы, агуркоў і іншай гародніны. Кожны з нас меў сваю «вёску», шмат сем'яў. Сяргей патрабаваў, каб усё было як у жыцці. Так, адпраўляючыся з нашымі «хлопчыкамі» ў поле, на касьбу, у лес па дровы, у грыбы, мы павінны былі траціць столькі ж часу, колькі трацілася б на самай справе. Ён патрабаваў, каб і ў маіх «хлопчыкаў» усё было, як у сапраўдным жыцці.

Пасля паступлення Сяргея ў Мазырскую прагімназію адносіны сястры і старэйшага брата засталіся па-ранейшаму цёплыя. Сяргей вучыў Зіну чытаць. Прыязджаючы з Мазыра, ён заўсёды прывозіў з сабою кнігі (дома бібліятэкі не было) — для сясцёр і для сябе. Калі Зіна хацела паглядзець некаторыя яго кнігі, ён казаў, што тыя кнігі чытаць ёй рана, што яна не зразумее іх і што гэта кнігі забароненыя. Часам разам з Сяргеем прыязджаў яго таварыш Корзун. Яны нешта горача абмяркоўвалі, спрачаліся, сустракаліся з мясцовай моладдзю, хадзілі на фэсты і вечарынкі ў недалёкія Юравічы, суседнія вёскі...

Зінаіда Епіфанаўна, як і яе сястра Людміла, запомніла прыезд з Юравіч валаснога прыстава, які доўга пра нешта гаварыў з бацькам. Пасля таго, прыгадвае Зінаіда Епіфанаўна, бацька моцна лаяў Сяргея, патрабаваў ад яго кінуць «займацца вальнадумствам». Сяргей стаяў на сваім, даказваў сваю правату. Бацькава лаянка закончылася лупцоўкай сына.

Аднак ад свайго Сяргей не адступіўся. Да Крышыч дайшлі чуткі, што яго за рэвалюцыйныя перакананні збіраюцца выключаць з прагімназіі. Бацька тэрмінова забраў Сяргея з Мазыра і адправіў у Мітаву пад нагляд дзядзькоў Сцяпана і Вікенція. Дзядзькі ўладкавалі Сяргея ў Мітаўскую мужчынскую гімназію, што размяшчалася ў былым палацы Анны Іаанаўны (Біронаўскі замак).

— Я добра помню той 1904 год,— апавядае Зінаіда Епіфанаўна,— таму што якраз у тым годзе і я стала вучыцца — у першым класе Мітаўскай жаночай гімназіі. Разам з Сяргеем мы пасяліліся ў нямецкай сям'і ў пансіёне. Гаспадыня пансіёна была строгая. Сяргея яна часта праганяла з-за стала за непаслушэнства, за тое, што ён адмаўляўся есці нязвыклыя нямецкія стравы. І тут ён праяўляў свой характар, адстойваў свае густы і прывычкі.

Надышоў 1905-ы год. Рабочая Мітава забурліла. Да яе далучыліся вучні гімназій і рэальнага вучылішча. Баставала нават жаночая гімназія. Сяргей кідаецца ў гушчыню падзей: удзельнічае ў дэман-

страцыях, мітынгах, выступае з палкімі рэвалюцыйнымі прамовамі ў гімназіі. Над ім навісае пагроза арышту. Прыязджае бацька і, ратуючы сына ад «воўчага білета», тэрмінова забірае яго дахаты.

Дома — новая сварка, новы скандал. Як жа, бацька ўсё жыццё выбіваўся «ў людзі», хоць і быў кругом у даўгах, аднак ужо лічыўся «панам». А тут — сын-рэвалюцыянер... Ці мог ён змірыцца з гэтым? Але Сяргей, які, паводле слоў Зінаіды Епіфанаўны, «упартасцю ўдаўся ў бацьку», цвёрда трымаўся сваіх перакананняў, застаўся верны сабе: сустракаўся з юравіцкай моладдзю, вёў антыдзяржаўныя гутаркі, і яму зноў пагражаў арышт. Бацька, чалавек успыльчывы, нават біў Сяргея (праўда, потым ён хутка адыходзіў, нават раскайваўся ў гэтым). Пасля адной такой сваркі Сяргей і пайшоў з дому назаўсёды...

«Дык вось што прывяло да разрыву сына з бацькам, вось чаму Епіфан Іванавіч не дапамагаў свайму сыну!» — адзначаем мы ў думках, зразумеўшы нарэшце адну з прычын духоўнай адзіноты Сяргея Палуяна. «Ты быў, як месяц, адзінокі, самотна жыў, самотна ўмёр»,— пісаў пра яго Максім Багдановіч.

— Пра ўсё гэта я даведалася пазней, бо ўвесь час была ў Мітаве,— працягвае Зінаіда Епіфанаўна.— Дазналася, што Сяргей пасля сыходу з дому жыў у Вільні, а затым у Кіеве. Там ён асабліва блізка сышоўся са сваім стрыечным братам Іванам Бахонкам, таксама ўдзельнікам рэвалюцыйнага руху. Іван праз пару гадоў пасля трагічнай смерці Сяргея таксама пакончыў жыццё самагубствам, і яго сям'я абвінавачвала Сяргея «ў дрэнным уплыве».

Пытаемся ў Зінаіды Епіфанаўны, якая, на яе думку, прычына самагубства Сяргея Палуяна. Пэўна не ведае... Цытуе па памяці (!) пераказаныя некалі бацькам словы з перадсмяротнага ліста брата: «Жыццё ў марах — казка, а на самой справе — гніенне раба і вечная незабяспечанасць. Але не думайце, што з-за незабяспечанасці я паміраю. Так трэба». Магчыма, у гэтых словах бацька шукаў сабе апраўдання, бо Сяргею ён матэрыяльна не дапамагаў. Памёр Сяргей у страшэннай галечы, але бацьку да канца сваіх дзён не пакланіўся.

Бацька, па ўсім відаць, раскайваўся ў сваіх учынках. Пры пахаванні сына неяк яшчэ трымаўся, але пасля памінак, ужо сярод ночы, раптам усхапіўся бегчы на могілкі — раскопваць магілу: яму здалося, што Сяргей не памёр, а толькі заснуў летаргічным сном...

— Якога чысла нарадзіўся Сяргей Палуян? — задаём пытанне Зінаідзе Епіфанаўне, спрабуючы ўсё-такі ўстанавіць дакладную дату нараджэння.

— Восенню, на Сяргея,— не задумваючыся, адказвае Зінаіда Епіфанаўна.— У нас у сям'і звычайна давалі тыя імёны, на які дзень выпадала нараджэнне дзіцяці (па царкоўным календары).

Усе разам — дапамагаюць тут актыўна дачка і зяць Зінаіды Епіфанаўны — устанаўліваем, што «дзень Сяргея» прыходзіцца на 7 кастрычніка па старому стылю або на 19 — па новым, сённяшняя любая энцыклапедычная даведка пра Сяргея Палуяна павінна пачынацца так: «Сяргей Палуян (г. Брагін, 7(19). 10.1890 — 7(20).4.1910), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец і публіцыст...»

— Заўважце яшчэ,— уключаецца ў размову Зінаіда Уладзіміраўна,— што Сяргей Палуян аказаў вырашальны ўплыў на маму, на яе далейшы лес, светапогляд.

— Так,— згаджаецца Зінаіда Епіфанаўна.— Сяргей уплываў, бадай, на ўсіх, з кім сустракаўся, асабліва на сваіх блізкіх і родных, сясцёр і братоў. Ён яшчэ ў дзяцінстве прывіў мне любоў да кніг, да чытання. Дзякуючы яму ў мяне ўзнікла вялікая цяга да ведаў, да адукацыі...

Як жа склаўся жыццёвы лёс Зінаіды Епіфанаўны?

Пасля выдатнага заканчэння Мітаўсісай гімназіі яна з вялікімі цяжкасцямі (не было на што жыць і чым плаціць за вучобу) займалася на гісторыка-філалагічным аддзяленні Петраградскіх Бястужаўскіх курсаў — у адзінай дарэвалюцыйнай вышэйшай навучальнай установе для жанчын. Тут (таксама навука Сяргея!) актыўна ўключылася ў рэвалюцыйны рух, стала кантактаваць з некаторымі рэвалюцыянерамі-бальшавікамі, выконваць іх асобныя заданні. Яе імя трапіла нават у пяцітомнік «Воспоминания о Владимире Ильиче Ленине», дзе вядомы рэвалюцыянер А. Шотман (яго імем, дарэчы, названа адна з вуліц у Ленінградзе) так апісвае момант эвакуацыі У. І. Леніна з Разліва ў Фінляндыю пасля вядомых ліпеньскіх падзей 1917 года: «Цяпер патрэбна было як мага хутчэй папярэдзіць жонку Емяльянава пра арышт яе мужа (раніцой, зрэшты, яго вызвалілі), каб яна магла схаваць сляды пабыўкі ў Разліве Леніна і Зіноўева. Паколькі часу губляць было нельга, я, сяк-так перакусіўшы, <u>пайшоў да Палуян, якая ведала кватэру Емяльянава</u> (падкрэсленне наша.— Т. К. і В. Р.). Была ўжо шостая гадзіна, калі я даплёўся да яе кватэры. Расказаўшы, што трэба зрабіць, я паспяшаўся на Выбаргскі бок да машыніста Якава, які павінен быў адвезці Леніна ў Фінляндыю» (Выд. 3-е, 1984, т. 2, с. 424). Гэтыя ўспаміны А. Шотмана мы прачыталі пазней, пасля нашай першай сустрэчы з Зінаідай Епіфанаўнай, у час якой на пытанне пра ўдзел у Кастрычніцкай рэвалюцыі яна сціпла адказала: «Удзельнічала, як і многія ўдзельнічалі. Трымала сувязь з рускімі і латышскімі рэва-

люцыянерамі, рабіла ўсё, што яны прасілі». Ці не гэтая сціпласць— прычына таго, што ў каментарыях да другога тома «Воспоминаний о Владимире Ильиче Ленине» насупраць прозвішча Палуян значыцца: «Біяграфічных звестак не захавалася»? На шчасце, гэта не так. Звесткі захаваліся.

У 1919 г. Зінаіда Палуян добраахвотна пайшла ў Чырвоную Армію, праводзіла палітыка-выхаваўчую работу ў часцях асобай Самарскай дывізіі. Там жа, у арміі, выйшла, замуж за чырвонаармейскага афіцэра Уладзіміра Фёдаравіча Каракіна, сына вядомых пецярбургскіх тыфла-педагогаў (бацька яго — першы рускі картограф рэльефных карт для сляпых, маці была яшчэ і таленавіты сурдапедагог — навучала глуханямых мове жэстаў). Пасля службы ў арміі, з 1926 года да выхаду на пенсію ў 1957 годзе, бесперапынку працавала ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Е. Салтыкова-Шчадрына, спачатку бібліятэкарам, метадыстам, потым загадчыцай аддзела.

Сяргей Мікалаевіч дастае з кніжнай шафы вялікі, альбомнага фармату, прыгожа выдадзены кніжны фаліянт — «Историю Государственной ордена Трудового Красного Знамени публичной библиотеки имени М. Е. Салтыкова-Щедрина» (Ленінград, 1963 г.). На многіх старонках кнігі (266, 280, 282, 372 і інш.) упамінаецца імя З. Е. Каракінай, расказваецца пра яе ўклад у развіццё савецкай бібліятэчнай справы. Вось толькі адна выпіска з гэтага выдання: «Істотнае значэнне мела створаная З. Е. Каракінай табліца агульных тыпавых дзяленняў (ці, як яе называлі ў бібліятэцы, «сетка агульных падраздзяленняў»), прызначаная для аднастайнага размяшчэння дзяленняў, якія паўтараюцца ва ўсіх аддзелах. Гэту табліцу потым запазычылі многія іншыя бібліятэкі. Яна і да гэтага часу з некаторымі зменамі прымяняецца ў генеральным сістэматычным каталозе».

Разам са «Шчадрынкай» Зінаіда Епіфанаўна перанесла ўсе цяжкасці перыяду паслярэвалюцыйнага аднаўлення народнай гаспадаркі, пакуты ленінградскай блакады. Каб уявіць сабе хаця б на момант, што вытрывала пад час блакады Зінаіда Епіфанаўна, варта звярнуцца да кнігі Вольгі Бяргольц «Гаворыць Ленінград». У гэтай кнізе яскрава паказана, у якіх умовах працавала ў блакаду Публічная бібліятэка — адно з самых вялікіх кнігасховішчаў свету: на абанеменце былі ўсяго два ліхтары «лятучая мыш», ад кніг веяла смяротным холадам; бібліятэкары, аслабелыя ад голаду, шукалі ў кнігах мінулых вякоў даведкі, як рабіць запалкі, свечкі, дрожджы і інш.— дапамагалі ратаваць горад ад холаду і голаду; у перапынках паміж артабстрэлам на саначках ці на дзіцячых калясках знясілена звозілі ў свой фонд

— ратавалі для будучых пакаленняў! — тысячы кніг, рукапісаў, архіваў з разбомбленых і вымерлых дамоў.

У кнізе «Гаворыць Ленінград» ёсць і старонкі, прысвечаныя непасрэдна Зінаідзе Епіфанаўне. Гэтыя старонкі прачытваюцца з асаблівым хваляваннем, выклікаюць гордасць за нашага савецкага чалавека, які нават у тых жудасных умовах не толькі не страціў свайго чалавечага аблічча, не паддаўся на правакацыю Гітлера («Ленінград сажрэ сам сябе»,— саманадзейна ўсклікаў фюрэр-вар'ят), а нават, як піша В. Бяргольц, «окреп морально». Ілюстрацыю ж гэтаму пісьменніца ўбачыла ў жыцці і паводзінах Палуянавай сястры: на яе руках толькі што ад голаду памёр муж, а яна, сама ледзь жывая, цудам уратаваная ад смерці, дзеліцца з суседзямі выпадкова раздабытым правіянтам... «Мы зразумелі — выжыць мы зможам, толькі трымаючыся адзін аднаго, толькі памагаючы адзін аднаму»,— заканчвае В. Бяргольц свой расказ пра Зінаіду Епіфанаўну, якую яна ведала асабіста і якой пасля вайны падаравала сваю кніжку з цёплым надпісам.

Дарэчы, у 60-я — пачатку 70-х гадоў у маскоўскім тэатры на Таганцы ішоў спектакль «Паўшыя і жывыя», пастаўлены па матывах кнігі «Гаворыць Ленінград». Ролю Зінаіды Каракінай выконвала артыстка Дзямідава. Дзеячы культуры супраць фашызму — такая была ідэйная скіраванасць усяго спектакля.

...Канчаецца дзень. У вокны просіцца ранні сакавіцкі вечар. Мы нясмела спрабуем адвітацца, хоць расставацца зусім не хочацца.

— Ні ў якую гасцініцу вы не пойдзеце, будзеце начаваць у нас,— безапеляцыйна заяўляе Зінаіда Уладзіміраўна.— Мама вунь і Сяргееву падушку вам пад галовы пакладзе.

Зінаіда Епіфанаўна тлумачыць, што адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі завітала на некалькі дзён у Крышычы. Тады ж папрасіла ў маці даць на памяць пра любімага брата якую-небудзь яго рэч. Маці дала яго падушку. Сяргеева падушка, як талісман, прайшла праз усе франты, нягоды, нават у блакаду ацалела. Зінаіда Епіфанаўна спіць заўсёды на ёй, хаця ў хаце ёсць і больш шыкоўныя. «Лягу, зажмуруся — і адразу мама, Сяргей, наш дом у Крышычах уяўляюцца...»

З хваляваннем кладзёмся на невялікую, з крышыцкага пуху, здаецца, асабліва мяккую надушку.

Усю ноч сніцца Сяргей Палуян.

## Колькі слоў пасля дарогі

Вось і скончылася наша палуянаўская дарога, якая мае два вымярэнні: часавае і прастаравае.

Перш за ўсё гэта дарога ў глыбіні часавага пласта ледзь не стогадовай даўнасці, у аснове якога — «адкладанні» дарэвалюцыйнай эры, на верхнім «зрэзе» — адбіткі сённяшняга дня. Разам з тым працягнулася гэта дарога на многія тысячы кіламетраў з усходу на захад; пачатак яе — знамянальна! — у адным горадзе Леніна, Ленінабадзе, канец — у другім, Ленінградзе.

Павандраваўшы ўслед за Сяргеем Палуянам, мы многае ўведалі як пра самога пісьменніка, дэмакрата і рэвалюцыянера, так і пра яго сямейнае і сяброўскае акружэнне. Але ці можна сказаць, што даведаліся пра ўсё?

Шлях да Сяргея Палуяна і ўслед за ім, па сутнасці, толькі пачынаецца.

*1984 г.*

# СЯВЕЦ
# У РОДНЫХ СЛОЎ СЯЎБЕ

*Беларускі рух пачаўся. Пачаўся і расце ў нашы часы, на нашых вачах. Ідзе спешная сяўба, раскідаюцца зярняты па ўсяму краю. Дзе-нідзе толькі лопнула і пратыкаецца тонкай зялёнай былінкай раней кінутае ў адзіночку зерне. Рэшта яшчэ чакае свае пары. А пакуль што трэба раскідаць усё новае і новае насенне. Мо і кепская доля спаткае яго, мо і зніштожыцца сіверам,— але не сяўцам думаць аб гэтым! У іх адна мэта — болей зёрнаў кінуць у сагрэтую сонцам раллю.*

Сяргей Палуян. «З нашага жыцця»

Калі старанна падсумаваць, што мы ведалі пра Сяргея Палуяна дагэтуль і што даведаліся пра яго літаральна ў апошнія гады, дзякуючы найперш яго родным сёстрам, то біяграфія пісьменніка і яго творчы шлях могуць акрэсліцца наступным чынам.

Нарадзіўся Сяргей Палуян 7 (19 па н. ст.) кастрычніка 1890 года ў Брагіне, быў трэцім дзіцем у мнагадзетнай сям'і (пяцёра дачок і тры сыны). Дзед Сяргея Іван Рыгоравіч Палуян, былы прыгонны селянін, калісьці працаваў у воласці, за прыкладную службу атрымаў ад урада кавалак зямлі і саслоўнае званне мешчаніна горада Рэчыцы. Займаўся агародніцтвам і садоўніцтвам, што ў тых мясцінах давала неблагі прыбытак. Бацька будучага пісьменніка Епіфан Іванавіч браў у арэнду зямлю, а пасля, дзякуючы спадчыне, такім-сякім зберажэнням, а таксама жончынаму пасагу (Аляксандра Дзмітрыеўна, народжаная Бахонка, паходзіла з маёмасных брагінскіх сялян), змог набыць зямлю, купіў у 1897 г. па адносна таннай цане частку закладзенага ў Віленскім зямельным банку маёнтка Крышычы Юравіцкай воласці (цяпер Калінкавіцкі раён Гомельскай вобласці). Здавалася, мара Епіфана Іванавіча ажыццявілася: з дробных арандатараў ён, нарэшце, выбіўся ў самастойныя землеўласнікі. Аднак цешыцца не прыйшлося. На пакупніка перайшоў вялікі банкаўскі доўг (звыш 8 тысяч рублёў), які трэба было неадкладна выплочваць. Неабходна было аддаваць родзічам і суседзям пазычаныя пад куплю маёнтка грошы, утрымліваць вялікую сям'ю, плаціць за вучобу дзяцей. Урэшце аказалася, што ранейшы ўладальнік маёнтка ашукаў Епіфана Іванавіча: большая частка зямлі не належала поўнасцю прадаўцу, а ўваходзіла «ў склад сервітутнай прасторы сялян вёскі Крышычы», што ў хуткім часе і даказалі сяляне праз суд. Епіфан Іванавіч, каб разлічыцца з даўгамі,

пачынае паступова прадаваць зямлю (а ворнай было няшмат), потым збывае і куплены разам з зямлёю дом. Ды толькі Кастрычніцкая рэвалюцыя ліквідавала ўсе даўгі, выратавала яго ад поўнага банкруцтва.

Сяргей свядомае маленства правёў у Крышычах, што зусім недалёка ад мележаўскіх Глінішчаў, сярод цудоўнай прыроды. Хата стаяла не ў вёсцы, а наводшыбе, каля лесу. Каля хаты — сад, у якім любілі гуляць дзеці, далей — поплаў, сажалка. У садзе Сяргей, забаўляючы меншых сясцёр і братоў, наладжваў цэлы лялечны тэатр: «хлопчыкаў» — маленькіх чалавечкаў — рабілі з палачак і анучак, «жывёлу» — з агародніны. У кожнага быў свой «дом» і свая «гаспадарка», і гаспадарыць стараліся, як у сапраўдным жыцці... Несумненна, у гэтым «тэатры» пераймаліся як жыццёвыя клопаты дарослых, так і тагачасныя народныя відовішчы з батлейкай, якія ладзіла на каляды вясковая моладзь.

З маленства пасяліліся ў Сяргеевым сэрцы любоў да родных мясцін, бацькоўскай мовы, працоўных людзей. Роздум пра чалавечы лес, пра тое, што адны жывуць багата, а другія, як ні працуюць, галеюць без хлеба, прыйдзе потым, разам з пасталеннем. Цяпер жа ён проста здзіўляў бацькоў неспадзяванымі пытаннямі: «Чаму ў нас больш зямлі, чым у крышыцкіх мужыкоў?»; «Ці праўда, што мужык такі самы чалавек, як і пан?»; «Чаму дома паміж сабой мы гаворым па-нашаму, а як прыедуць госці — па-руску ці па-польску?».

Не знайшоўшы ў бацькоў на гэтыя пытанні яснага адказу, Сяргей шукаў яго ў не такім далёкім ад Крышыч Мазыры, куды бацька адвёз яго вучыцца ў шасцікласную прагімназію. У прагімназіі вучылася тады 146 дзяцей, плата была параўнальна невялікая — 40 рублёў у год. Але не ў настаўнікаў прагімназіі, а ў мазырскіх рабочых пачаў Сяргей нарэшце знаходзіць жаданы адказ на свае пытанні. Пасябраваўшы з сынам аднаго рабочага, падлетак пачаў хадзіць на маёўкі, слухаць гарачыя прамовы ў абарону працоўных, разносіць пракламацыі. Пачутае і вычытанае стаў пераказваць сваім аднакласнікам. Пра гэта стала вядома дырэктару прагімназіі. Над Сяргеем навісла пагроза выключэння. А тут яшчэ, прыязджаючы на пабыўку дадому, ён прыхоплівае з сабою рэвалюцыйныя брашуры, вядзе рэвалюцыйную агітацыю сярод моладзі ў суседніх Юравічах, не на жарт палохаючы тым самым мясцовае начальства. Бацька тэрмінова забірае Сяргея з Мазыра і адвозіць яго ў Прыбалтыку, у Мітаву (цяпер Елгава, Латвія). Там працуюць гімназічнымі выкладчыкамі два дзядзькі Сяргея, Сцяпан Дзмітрыевіч і Вікенцій Дзмітрыевіч, дзякуючы ім у Мітаўскай гімназіі вучацца Сяргеевы сёстры. Хоць далёка, затое надзейна: дзеці

пад добрым наглядам, ды і льготы ў вучобе пэўныя маюць як родзічы выкладчыкаў.

Аднак Сяргей трапіў, як кажуць, з агню ды ў полымя. Пачынаецца рэвалюцыя 1905 года. Рабочыя Мітавы ўзводзяць барыкады. Бастуюць гімназісты, студэнты. Сяргей — у самай гушчыні рэвалюцыйных падзей: удзельнічае ў мітынгах, дэманстрацыях, забастоўках. Яго строга папярэджвае дырэкцыя гімназіі. Але хіба можна астудзіць запал пятнаццацігадовага юнака нейкім, нават «вельмі строгім», папярэджаннем? Дырэкцыя ідзе на крайнія меры: збіраецца выключаць «нядобранадзейнага» гімназіста. Дзядзькі Сяргея папярэджваюць аб гэтым Ёпіфана Іванавіча. Бацька, не чакаючы, калі яго сыну дадуць «воўчы білет», прыязджае ў Мітаву, забірае яго дадому.

Дома — скандал. Як жа, бацька штосілы выбіваецца «ў людзі», з мужыкоў зрабіўся «панам», а тут — сын-рэвалюцыянер! Начальства пачынае пазіраць скоса... Прыстаў папярэджвае: «Толькі паважаючы вас, пане Палуян...» Усё, хопіць! Ніякай больш табе, Сяргей, навукі! Будзеш сядзець дома, памагаць гаспадарыць, ва ўсякім разе — пакуль аціхне гэтая палітычная завіруха.

Але не такі быў ён, Сяргей Палуян, каб, ходзячы нават за плугам, апускаць вочы долу, нічога больш не бачыць навокал. Ён не мог абысціся без зорак! Позірк яго сягаў угару, за нізкі небакрай, туды, дзе займалася зара новага жыцця.

А зара займалася!

Цар, напалоханы выступленнямі рабочых і бяднейшага сялянства, выдае 17 кастрычніка 1905 г. маніфест, у якім «даруе» свабоду слова, сходаў, дэманстрацый. І хоць неўзабаве, калі контррэвалюцыя перайшла ў наступленне, большасць з дараваных свабод засталіся толькі на паперы, усё ж асобныя рэвалюцыйныя заваёвы адчуліся. У выніку рэвалюцыі нараджаецца легальны беларускі друк, пачынаюць выходзіць першыя беларускія газеты «Наша доля» і «Наша ніва», арганізуюцца нацыянальныя кнігавыдавецкія суполкі. Першыя ластаўкі беларускага друку з Вільні і Пецярбурга далятаюць і да Гомельшчыны і разам з марксісцкай літаратурай трапляюць у рукі Сяргея Палуяна. Светапогляд яго акрэсліваецца не толькі сацыяльна, але і нацыянальна. Ён канчаткова вырашае ўсімі сіламі служыць абяздоленаму народу, запрыгоненаму «забранаму краю».

Сяргей вядзе рэвалюцыйную прапаганду сярод навакольных сялян, ходзіць на вечарынкі ў Прудок, Шарэйкі, Глінішчы, Юравічы, у перапынках паміж танцамі заводзіць «Марсельезу», «Варшавянку», «Смела, таварышы, у ногу». Гэтым песням навучае ён і сваіх сясцёр.

Выведзе ў сад пагуляць, а там пасадзіць радком і давай дырыжыраваць сваім «рэвалюцыйным хорам».

Да Епіфана Іванавіча Палуяна аднойчы з Юравіч прыязджае прыстаў: «Пане Палуян, толькі паважаючы вас я да гэтага часу не арыштаваў вашага сына Сяргея. Але мае цярпенне лопаецца. Ён паранейшаму падбухторвае юравіцкую моладзь...»

Адбываецца новая сварка бацькі з сынам. Ні ўгаворам, ні бацькавым пагрозам сын не паддаецца. Бацька ў запале спрэчкі замахваецца на Сяргея...

У той дзень Сяргей пакінуў Крышычы. Пакінуў назаўсёды.

Ён едзе ў Кіеў. Гэта самы блізкі ад Крышыч вялікі горад, культурны і палітычны цэнтр, дабрацца да якога прасцей за ўсё: ад Юравіч — параходам, спачатку па Прыпяці, а пасля па Дняпры. Там жыве дзядзька Акім, дваюродны брат Іван, які вучыцца ў Політэхнічным інстытуце...

У Кіеве Сяргей Палуян пасяляецца спачатку ў дзядзькі, а пасля наймае невялікі пакойчык. Збіраецца здаць экстэрнам экзамены за восем класаў гімназіі, каб пасля паступіць ва універсітэт. Жыве на выпадковыя заробкі: то падзаробіць крыху ва Упраўленні Паўднёва-Заходняй чыгункі, дзе працуе яго дзядзька, то сачыненне гультаю-гімназісту напіша, за якое той самую высокую адзнаку атрымае, то вычытае чарговую карэктуру ў «Киевских вестях»... Праз стрыечнага брата Івана Бахонку звязваецца з мясцовымі сацыял-дэмакратамі, удзельнічае ў кіеўскім падполлі (потым Цішку Гартнаму ў Вільні па сакрэту будзе расказваць, што «належыць да ўкраінскіх сацыял-дэмакратаў»).

Нягледзячы на матэрыяльныя цяжкасці, Сяргей Палуян — высокі, русавалосы, чырванашчокі юнак — увесь поўны энергіі, аптымізму. Восенню 1908 і вясной 1909 гг. яго неаднойчы бачаць у кіеўскай кнігарні, дзе ёсць і беларускі аддзел. Пры ім нязменна — нумары «Нашай нівы», «Жалейка» Янкі Купалы, іншыя першыя беларускія выданні. Тады ж спрабуе свае сілы ў літаратуры. І адразу, мінуючы стадыю пачаткоўства, дасягае значнага творчага плёну.

1 мая 1909 г. у аддзеле «Паштовая скрынка» газета «Наша ніва» (відавочна, рукою Я. Купалы, які ў той час вёў перапіску з чытачамі) паведаміла: «Кіеў — Палуяну. Вашу стаццю «Беларуская справа і ўкраінскае грамадзянства», надта цікава і добра напісаную, збіраемся выдаць нумарам-кніжкай». А ўкраінскі часопіс «Українська хата» ў майскім сваім нумары друкуе артыкул С. Палуяна «Пра нацыянальную школу на Беларусі» з наступнай рэдакцыйнай прыпіскай: «З прыемнасцю змяшчаем артыкул таварыша-беларуса і будзем і далей

сістэматычна адкрываць старонкі нашага часопіса для абмеркавання спраў беларускага адраджэння, зважаючы на тое, што: 1) адраджэнне братняга народу цікавае і павучальнае ўкраінцам, і 2) жадаючы сваім часопісам канкрэтна дапамагаць у абмеркаванні чарговых спраў і задач беларускай свядомай інтэлігенцыі, якая не мае пакуль што свайго органа, прызначанага для гэтай ролі».

Здавалася, для Сяргея Палуяна ўсё складваецца найлепшым чынам.

Аднак на самай справе радавацца не было чаму.

Пасля разгрому рэвалюцыі насоўвалася самая змрочная паласа рэакцыі. С. Палуяна гняло тое, што многія ўра-рэвалюцыянеры, рэвалюцыйныя «аратары», у асноўным з буржуазнага асяроддзя, не толькі вельмі хутка здрадзілі рэвалюцыйным ідэалам, але і пачалі аплёўваць рэвалюцыю. Самыя стойкія змагары за народнае шчасце апынуліся ў Сібіры або пайшлі ў глыбокае падполле. Сяргей застаўся ў духоўнай адзіноце. Гэтую адзіноту ніяк не маглі развеяць ні дзядзька Акім, які ўсё ўгаворваў памірыцца з бацькам, папрасіць у яго прабачэння (за што?), ні брат Іван, які ў гэты няпэўны час цалкам аддаўся вучобе, ні супрацоўнікі «Украіньскоі хати»: яны хоць і прыязна ставіліся да яго, ды былі надта занятыя сваімі нацыянальнымі праблемамі.

Да гэтага ад матэрыяльнай нястачы (часта не было чаго есці), столькіх перажыванняў пачало здаваць здароўе. Дала пра сябе знаць спадчынная хвароба па мацярынскай лініі — сухоты, ад якой у раннім узросце памёр дзед Змітро, дзядзька Хведар (пазней пamрэ маці, брат...). Колькі засталося таго жыцця! Дык хутчэй у Вільню — туды, дзе выдаецца беларуская газета, якая ўхваліла яго артыкул і збіраецца выпусціць нават асобным нумарам-кніжкай, дзе жыве найбольшы беларускі пясняр Янка Купала.

У Вільню Сяргей Палуян прыехаў на пачатку лета. Яшчэ ў чэрвені газета змясціла яго невялікі допіс з Кіева пад крыптанімам «П.» і «Ліст з Украіны» з паметкай «Кіеў». Але ўжо два наступныя чэрвеньскія «лісты» паметкі такой не мелі, хоць і былі таксама «з Украіны». Праўда, у Кіеў пасля С. Палуян даволі часта ездзіў з Вільні. Так, пазначка «Кіеў» стаіць пад яго другім артыкулам з цыклу «З нашага жыцця» (17 верасня 1909 г.), пад асобнымі «Лістамі з Украіны» — дзесятым (15 кастрычніка 1909 г.), адзінаццатым (18 лютага 1910 г.) і дванаццатым (11 сакавіка 1910 г.), іншымі матэрыяламі. Але гэта ўжо былі прыезды «ў госці», асталявацца ж ён меўся ў Вільні, якая ў той час, як вядома, была адным з цэнтраў не толькі польскага і літоўскага, але і беларускага культурнага жыцця.

І ўсё ж недзе на пачатку сакавіка 1910 г. С. Палуян парывае з рэдакцыяй «Пашай нівы», пакідае Вільню і зноў вяртаецца ў Кіеў. А 7 (20 па н. ст.) красавіка яго не стала.

Дык што ж адбылося ў Вільні, што малады, поўны жадання працаваць у імя роднага народа і культуры пісьменнік павінен быў згарнуць сваю альтруістычную дзейнасць, адмовіцца ад супрацоўніцтва з адзінай тагачаснай беларускай газетай? Пра гэта сёння мы можам толькі здагадвацца. Але нашы здагадкі засноўваюцца на асобных дакументах, успамінах сучаснікаў.

У Кіеве малады Палуян убачыў зблізку, у якіх умовах і якімі рукамі пачынае тварыцца, як тады казалі, украінскае свядомае нацыянальнае жыццё. Да высокіх ідэалаў нярэдка дакраналіся нячыстыя рукі рознага роду дзялкоў,ператвараючы вялікі храм Апалона ў прадажную біржу. Барацьба за праўду, прыгажосць і ісціну пераходзіла часта ў змаганне за ўплывы, выгадную рэкламу. Ідэальная душа юнака не магла такога вынесці. У адрозненне ад украінскага, беларускі нацыянальны рух яму маляваўся ў ружовых фарбах, здаваўся аднароднадэмакратычным, цалкам станоўчым, а людзі, якія ўдзельнічалі ў гэтым руху,— высакароднымі рыцарамі духу. На справе ўсё аказалася складаней.

Сяргей Палуян адразу сышоўся і пасябраваў з Янкам Купалам, які ў той час працаваў у «Нашай ніве», і стаў яму, паводле ўспамінаў У. Ф. Луцэвіч, самым блізкім сябрам. Увосень 1909 года з надзеяй атрымаць працу ў «Нашай ніве» ў Вільню прыязджае Цішка Гартны. Палуян і Гартны знаёмяцца, абменьваюцца думкамі па многіх пытаннях грамадскага жыцця, супастаўляюць свае сацыялістычныя ідэалы — таксама становяцца сябрамі.

Але ў рэдакцыі «Нашай нівы» ў 1909 г. далека не ўсе былі такія, як Я. Купала і Ц. Гартны. Па трапнай характарыстыцы С. Палуяна, засведчанай В. Ластоўскім, рэдакцыя тады складалася з дзвюх «палат» — верхняй і ніжняй. Верхняя палата (а сюды ўваходзілі рэдактар А. Уласаў, Іван і Антон Луцкевічы, Я. Манькоўскі, А. Бульба) імкнулася вяршыць, па словах Ластоўскага, «высокія палітычныя матэрыі»: у ёй ішла «актыўная гульня» з ганарарамі з боку царквы і некаторых буйных мясцовых чыноўнікаў, змаганне за фінансавыя падачкі, уплывы, рэкламы... «Ніжняя палата» (Янка Купала, В. Ластоўскі. С. Палуян, Ядвігін Ш., мастак Я. Драздовіч) рабіла ўсю штодзённую работу рэдакцыі: пісала большасць матэрыялаў, апрацоўвала розныя допісы ў газету, падтрымлівала сувязь з чытачамі і падпісчыкамі газеты і г. д. Прычым, каб трымаць манаполію прадстаўніцтва нацыянальнага руху ў сваіх руках, члены верхняй палаты ўзялі за правіла не раскры-

ваць прозвішчаў сваіх супрацоўнікаў і друкавалі матэрыялы, як правіла, пад псеўданімамі або зусім без подпісу. Скажам, за ўвесь час толькі чатыры разы прозвішча С. Палуяна з'явілася на старонках «Нашай нівы», усе астатнія яго матэрыялы былі падпісаны псеўданімам С. Ясяновіч («Нацыянальнае адраджэнне чувашоў», «Якуцкі нацыянальны рух», трэці артыкул з цыклу «З нашага жыцця» і інш.) або ішлі без подпісу, як рэдакцыйныя («Украінскія часопісы», «Аб беларускім нацыянальным адраджэнні», «Першая беларуская вечарынка» і інш.).

Несумненна, усё гэта на чулую рамантычную душу юнака клала цяжкі адбітак. Ён, як і Янка Купала, не мог зразумець, як гэта ў імя нейкай «грашовай падачкі» можна хаця б часова паступацца чысцінёй ідэалаў — напрыклад, рэкламаваць ідэйна чужыя выданні, «новейшие парижские изделия» і г. д. Чыстую справу не зробіш бруднымі рукамі! Не разумеў максімаліст С. Палуян і таго, для чаго трэба камуфліраваць аўтарства матэрыялаў: не называць прозвішча аўтара або, у лепшым выпадку, замяняць яго псеўданімам. Бясхітрасны, ён не раз гаварыў «верхнепалатнікам» тое, што думаў пра іх. Тыя, зразумела, не заставаліся ў даўгу. Яго артыкул «Беларуская справа і ўкраінскае грамадзянства» не толькі не выдалі асобным нумарам-кніжкай, а наогул недзе згубілі сярод рэдакцыйных папер... Каб яшчэ больш насаліць, пачынаючы з верасня 1909 г., ні разу не падпісваюць пад матэрыяламі яго прозвішча; яно або здымаецца зусім, або замяняецца псеўданімам, прыдуманым у рэдакцыі.

Янка Купала, які вельмі добра ведаў узаемаадносіны ў рэдакцыі, у тым ліку адносіны некаторых прадстаўнікоў верхняй «палаты» да Сяргея Палуяна, у вершы «Памяці С. Палуяна» востра, але справядліва выказаўся пра тых, хто, можа, нават не ўсведамляючы таго, таксама прыскорваў смерць маладога пісьменніка:

Для беларускіх грамадзян байцом, слугой
Так шчырым быў, а грамадзяне —
Эх! ніткаю к пятлі плацілі не адной,
Хоць колькі ўздоху ў час расстання...
О стыд і ганьба вам, сляпні, што сілам маладым
К жыццю гародзіце запоры!
Пагардай вам патомак плюне ў вочы ўсім,
Праклящцем памяць абгавора.

Асабліва невыносна стала, калі з Вільні, у тым-сім не пагаджаючыся з некаторымі членамі верхняй палаты, шукаючы іншага выйсця, з'ехаў спачатку Цішка Гартны, а пасля — у Пецярбург — і Янка Купала. Яшчэ два чалавекі, якім мог бы Палуян адкрыць сваю душу —

Якуб Колас і М. Багдановіч,— знаходзіліся далека: першы за арганізацыю нелегальнага настаўніцкага з'езда сядзеў у Мінскім астрозе, другі жыў і вучыўся ажно ў Яраслаўлі. Алесь Гарун і Язэп Лёсік, пастаянныя аўтары «Нашай нівы», адбывалі ссылку ў далёкай Сібіры. З бацькамі адносіны не былі наладжаны. Зноў Палуян апынуўся ў духоўнай адзіноце. Часам вырываўся па нейкіх справах у Кіеў, шукаючы адхлання для душы. Але і ў Кіеве самотнасць не праходзіла, а толькі абвастралася з новай сілай.

Юнага, гарачага Сяргея Палуяна часам раздражняла і пэўная эстэтычная глухата некаторых «верхнепалатнікаў». Ды што яны, калі нават Ядвігін Ш. не прымае вершаў М. Багдановіча, лічыць іх «дэкадэншчынай», творамі «не для народа». З Ядвігіным Ш. лёгка згадзіўся рэдактар А. Уласаў, прапанаваўшы здаць вершы «ў архіў». Так і не друкуецца ў газеце М. Багдановіч пасля мая месяца, калі былі апублікаваны з цяжкасцю адваяваныя Я. Купалам і падпісаныя псеўданімам Максім Крыніца яго «Дзве песні, пераклад з Ю. Святагора».

Палуян, з аднаго боку, падтрымлівае Багдановіча, піша яму шчырыя лісты, у якіх заахвочвае да творчасці, да працы над формаю верша, яго мовай, заклікае паглыбляць і пашыраць грамадзянскія матывы паэзіі, інфармуе пра бягучыя падзеі беларускага літаратурнага жыцця (потым у архіве М. Багдановіча будуць зберагацца восем палуянаўскіх лістоў, страчаных, на жаль, у гады Вялікай Айчыннай вайны). Нават аднойчы праз газетную «Паштовую скрынку» вырашыў яго падтрымаць: «Яраслаў на Волзе, Максіму Б-вічу. Вашы вершы, тлумачаныя з Гейнэ, чытацелі «Нашай нівы» будуць толькі вітаць. Гейнэ — найвялікшы пясняр людскі, і перакладаць яго на беларускую мову — нават заслуга!» (10 верасня 1909 г.).

З другога боку, С. Палуян ваюе — адзін! — супраць усёй рэдакцыі за прызнанне М. Багдановіча. І перамагае! К канцу 1909 г. беларускі пясняр выходзіць на старонкі «Нашай нівы», каб ужо ніколі з іх не сыходзіць. Удзячны Палуяну за падтрымку, М. Багдановіч у снежні 1909 г. друкуе ў «Нашай ніве» прысвечаны яму верш, а 9 лютага 1910 г. дасылае яму сваю фатаграфію з прачулым вершаваным надпісам: «Я, нядужы, бяскрыдлы паэт, Помню, раз пазабыў сваё гора, Бо ў той час атрымаў ваш прывет...» Нават свой адзіны зборнік «Вянок» (1913) выдае з прысвячэннем: «Вянок на магілу С. Палуяна».

Аднак усё гэта можна было б вынесці, перацярпець, каб не грамадская атмасфера. Над краінай у гэты час згусціліся новыя хмары. Рэакцыя перайшла ў рашучае наступленне. Пачаліся масавыя вобыскі, арышты, суды. Усхадзіліся чарнасоценцы, клерыкалы, вялікадзяржаўныя шавіністы. Некаторыя літаратары, якія раней ставіліся спа-

чувальна да рэвалюцыі, цяпер пачалі прапаведаваць парнаграфію, секс, насілле, розныя ірацыянальныя візіі. У краіне пашырылася хваля забойстваў і самазабойстваў, асабліва сярод моладзі. Павялічыўся нацыянальны ўціск. Здавалася, настала беспрасветная бяеконцая ноч.

С. Палуян, прыйшоўшы ў «Нашу ніву», апрача ўсяго рэгулярна пастаўляў для раздзела «З усіх старон» звесткі з Украіны (раней такія звесткі траплялі сюды спарадычна). Вось толькі некаторыя паведамленні з Кіева за ліпень — верасень 1909 г., да з'яўлення якіх у газеце меў несумненнае дачыненне С. Палуян:

8 ліпеня. У горадзе шмат зрабілі вобыскаў і многіх арыштавалі.

29 ліпеня. У самім горадзе паліцыя гналася за невядомымі людзьмі. У перастрэлцы дваіх цяжка зранілі, аднаго забілі; з паліцыі зранены адзін.

5 жніўня. У Кіеўскай турме атруціўся прыгавораны на смерць Протчанка.

19 жніўня. Губернатар аштрафаваў газету «Киевское утро» і ўкраінскую «Раду» на 300 рублёў.

2 верасня. Зрабілі вобыск у турме. Усе камеры і кожнага арыштаванагаператрэслі.

16 верасня. За Дняпром арыштавалі 17 чалавек сацыял-дэмакратаў.

Такія звесткі не маглі не хваляваць С. Палуяна. Такую рэчаіснасць ён не прымаў. Выхаду са становішча не бачыў.

Грамадская атмасфера, рэдакцыйныя звады забіралі апошняе здароўе, якое і так падточвалі матэрыяльныя нястачы: тагачасныя беларускія і ўкраінскія перыядычныя выданні, у якіх друкаваўся С. Палуян, былі безганарарныя — не было чым плаціць аўтарам. Яшчэ ў 1908 годзе Сяргей — высокі, ружавашчокі... Роўна праз год Ц. Гартны сустрэў у Вільні нібыта іншага — вонкава — чалавека, худатварага, з глыбока ўпалымі вачамі, у пенснэ...

У пачатку 1910 г. С. Палуян зноў выехаў у Кіеў. «Верхнепалатнікі» нават іранізавалі з гэтага (нідзе не дзенецца, вернецца!), змясціўшы ў «Паштовай скрынцы» газеты адкрыты адказ на запытанне Ц. Гартнага: «Магілёў. Нашаму прыяцелю Цішцы. «Адзін» ізноў у Кіеве...» (18 сакавіка 1910 г.).

Аднак С. Палуян у Вільню так ужо і не вярнуўся.

У ноч з 7 на 8 сакавіка ў невялікім цёмным пакойчыку ў доме па Гогалеўскай, 37, у страшэннай беднасці і адзіноце, С. Палуян пакончыў жыццё самагубствам.

«Я так люблю жыццё, светласць і красу, ды не на маю долю выпала гэта»,— напісаў ён у перадсмяротным лісце.

Горкім смуткам адазвалася смерць Сяргея Палуяна ў сэрцах тых, хто яго блізка ведаў. Цішка Гартны, А. Гурло, Ядвігін Ш. і інш. Адгукнуліся на смерць творамі-прысвячэннямі. М. Багдановіч свой адзіны прыжыццёвы «Вянок» усклаў «на магілу С. Палуяну». Янка Купала ўзвёў над магілай свайго друга паэтычны «Курган» — прысвяціў яму адну са сваіх лепшых паэм. А ў вершы «Памяці С. Палуяна» прарочa напісаў»:

Сышоў ваяк за долю, волю і народ,
　　Пяском засыпалі жвіровым.
Спі, мой таварыш, спі!
　　Надойдзе новы ўсход,
І брат заплаце добрым словам.

* * *

Першая друкаваная праца Сяргея Палуяна — гэта яго артыкул «Пра нацыянальную школу на Беларусі», змешчаны ў часопісе «Українська хата» (1909, № 5). З гэтага артыкула, як з пачатковага пункта, разыходзяцца два вызначальныя жанравыя вектары яго творчасці — публіцыстыка і крытыка. Артыкул гэты — як бы водгук на першы нумар культурна-асветнага часопіса «Белорусский учитель», які выйшаў у Пецярбурзе ў 1909 годзе. Але па сутнасці — гэта палкае публіцыстычнае выступленне ў абарону нацыянальнай школы, роднай мовы, напісанае з выпадку выхаду ў свет названага часопіса.

У справе народнай асветы, дэмакратызацыі школы, развіцця нацыянальнай свядомасці С. Палуян асноўнае месца адводзіў настаўніку. Ён бачыў, у якое цяжкае становішча пастаўлены пры царызме настаўнік, які «павінен пашыраць у народзе асвету пад «неукоснительным наблюдением» кожнага «власть имеющего», пачынаючы ад соцкага, школьнага старасты і канчаючы інспектарам — гэтым царом і богам, валадаром жыцця і смерці настаўніка». У «недержавных» народаў сацыяльны прыгнет накладваецца на нацыянальны, сотня вачэй пільна сочыць за кожным яго рухам, за кожным адхіленнем у бок «сепаратызму». Аднак, нягледзячы на ўсё гэта, піша С. Палуян, беларускае настаўніцтва «не схавалася ў казённы футляр», яно разам з народам ідзе цярністым шляхам да лепшай будучыні, першым падхоплівае ідэі народнага вызвалення. Яно вяло вялікую палітычную работу ў час рэвалюцыі 1905-1907 гг., арганізоўвалася ў грамады, саюзы, збіралася на з'езды. Цяпер жа асноўная задача настаўніцтва, лічыць С. Палуян,— садзейнічанне нацыяналізацыі школьнай справы, бо толькі «адна гэта нацыяналізацыя можа рассекчы гордзіеў вузел беларускай блытаніны, яна адна можа вывесці беларускі народ з таго

тупіка, у які завялі яго нашы ўласныя вышэйшыя слаі сваёй антынароднай палітыкай, і паставіць яго на шлях агульначалавечага развіцця». Нацыяналізацыю школы С. Палуян разумеў шырока — і як «адзяржаўленне» яе, і як дэмакратызацыю школьнай справы, і як увядзенне ў школе выкладання на роднай мове.

У гэтым выказванні С. Палуяна, як і ў некаторых іншых, заўважаецца асаблівая ўвага пісьменніка да нацыянальнага пачатку ў справе духоўнага адраджэння народа. Вядома, найперш змена сацыяльна-палітычнага ладу, замена буржуазных вытворчых адносін сацыялістычнымі магла прывесці (і ўрэшце прывяла!) да нябачанага росквіту духоўных сіл беларускага народа, яго культуры, навукі, асветы, да ўзнікнення сапраўды народнай школы на сваёй роднай мове. Нельга сказаць, што С. Палуян, які сам удзельнічаў у рэвалюцыйным руху, гэтага зусім не разумеў. Але адкрыта і прама выказаць свае сацыяльна-класавыя погляды ў другой палове 1909 — пачатку 1910 гг., г. зн. у перыяд найбольшага разгулу контррэвалюцыйнай рэакцыі, ды яшчэ ў падцэнзурным друку, ён не мог (хаця гэтыя погляды, погляды рэвалюцыйнага дэмакрата, так ці інакш праглядваюць у многіх яго публікацыях). Неабходна, аднак, яшчэ ўлічыць, што ў той час (як, зрэшты, і шмат пазней) абарона бацькаўшчыны, беларускай культуры і мовы была адначасова і абаронай дэмакратыі, з'яўлялася адной з важнейшых задач сацыяльна-класавага змагання. Ацэньваючы тагачасную грамадска-палітычную сітуацыю, У. І. Ленін падкрэсліваў: «Для ўкраінцаў і беларусаў, напрыклад, толькі чалавек, які ў марах жыве на Марсе, мог бы адмаўляць, што тут няма яшчэ завяршэння нацыянальнага руху, што прабуджэнне мае да ўладання роднай мовай і яе літаратурай (а гэта неабходная ўмова і спадарожнік поўнага развіцця капіталізму, поўнага пранікнення абмену да апошняй сялянскай сям'і) тут яшчэ адбываецца. «Бацькаўшчына» тут яшчэ не адспявала ўсёй сваёй гістарычнай песні. «Абарона бацькаўшчыны» яшчэ можа быць тут абаронай дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды супраць прыгнятаючых нацый, супраць сярэдневякоўя...» (Ленін У. І. Творы, т. 23, с. 28). У святле менавіта гэтага ленінскага выказвання і трэба ацэньваць усю творчую спадчыну С. Палуяна, усю яго дзейнасць як публіцыста і крытыка.

Пашырэнне грамадзянскага статусу роднай мовы — адна з найгалоўнейшых тэм палуянаўскай публіцыстыкі, якая знайшла ўвасабленне ў многіх публікацыях, і перш за ўсё — у цыкле артыкулаў «З нашага жыцця». Родную мову С. Палуян называе «народнай», бо галоўны яе захавальнік — працоўныя народныя масы. У той час як вышэйшыя слаі грамадства здрадзілі народу, вельмі хутка пераанялі пануючую

культуру, апалячыліся ці абруселі, народ, «забіты беднасцю і непамернай працай... усё ж такі глыбока захаваў у сваіх брудных вёсках бацькоўскую мову». Мова — галоўны фактар духоўнага жыцця нацыі. Таму «беларускі нацыянальны рух, як вялікая жыццёвая гістарычная сіла, можа жыць толькі тады, калі пад яго будзе падведзены такі фундамент, як гібка абробленая мова, дый літаратура і навука ў гэтай мове».

І вось тут С. Палуян прыходзіць да акрэслення дзвюх праблем першапачатковай важнасці. Першая — гэта пытанне «пра крыніцы ўзбагачэння беларускай літаратурнай мовы, пра тыя кузні, у каторых можна было б з мовы вясковага ўжытку, з мовы цёмных сялян выкаваць мову культурнай нацыі: без такой культурнай мовы нельга шырыць і самае культуры». Другая праблема датычыцца формы і сродкаў пашырэння роднага слова ў дэнацыяналізаваным грамадстве.

Узбагачэнне мовы можа адбывацца рознымі шляхамі: праз запазычанне, шляхам актывізацыі ўласных моўных рэсурсаў і г. д. С. Палуян не быў пурыстам, ён сам не раз ужываў у сваіх артыкулах іншамоўныя запазычанні, у прыватнасці рускія і ўкраінскія словы і выразы. У той жа час ён заклікаў перад увядзеннем запазычання «абшарыць кішэні сваёй памяці» (Якуб Колас): звярнуцца да дыялектаў, да гістарычнай памяці народа, увасобленай у старых рукапісных і друкаваных тэкстах. «Нам трэба шмат новых слоў, а пазычаць у суседзяў не надта хочацца,— пісаў С. Палуян,— вось і прыходзіцца карыстаць старымі беларускімі словамі».

«Кузняй» літаратурнай мовы, важнейшым сродкам прапаганды роднага слова з'яўляецца нацыянальны друк. С. Палуян заклікае падтрымліваць — маральна і матэрыяльна — першыя беларускія друкаваныя выданні. А для гэтага трэба «кінуць згубны адвечны сон», пашыраць у народзе беларускія газеты і кніжкі, залучаць імі новых чытачоў. Трэба трымацца разам, бо «толькі ў еднасці — сіла, і калі мы хочам зрабіцца сілай, то трэба нам моцна трымацца адзін за аднаго».

Адным з важнейшых сродкаў развіцця культуры, мовы, нацыянальнай свядомасці С. Палуян справядліва лічыў нацыянальны тэатр. Пра вялікую ролю тэатра ў жыцці народа пісьменнік выказваўся ў цікавым артыкуле «Беларускія вечарыны», у шэрагу іншых публікацый («Першая беларуская вечарынка», «Віленскія газеты аб беларускай вечарынцы», «Этнаграфічны вечар у Вільні» і інш.). Гэтымі сваімі працамі С. Палуян паклаў пачатак уласна нацыянальнаму беларускаму тэатразнаўству. «Ролю тэатра ў сучасным беларускім жыцці,— пісаў С, Палуян,— немагчыма параўнаць нават з роллю тэатра на Украіне ў часы адміністрацыйных забаронаў і прыцясненняў. Яшчэ

да вядомага выказвання М. Гарэцкага аб выключнай ролі беларускага тэатра ў культурным жыцці нацыі аўтар «Беларускіх вечарын» прарочыў яму вялікую будучыню: «Ён будзе ўсім адначасова — і нацыянальнаю школаю, і асветным таварыствам, і клубам, і, што найгалоўней, імпульсам для развіцця мастацтва наогул і літаратуры ў прыватнасці».

Дарэчы, спраўдзілася яшчэ адно прароцтва С. Палуяна, выказанае ў артыкуле «Беларускія вечарыны». Упамінаючы славуты верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?», пакладзены на музыку Л. Рагоўскім, С. Палуян пісаў, што гэты твор «павінен стаць гімнам беларускага адраджэння». Прычым сказана гэта было яшчэ да таго, як М. Горкі ў артыкуле «Пра пісьменнікаў-самавукаў» (1911) выказаў такую самую думку: верш, «магчыма, на нейкі час стане народным гімнам беларусаў». Так яно, вядома, і сталася.

С. Палуян у «Беларускіх вечарынах» прасачыў развіццё беларускага тэатра, пачынаючы з сярэдзіны 90-х гадоў мінулага стагоддзя, з часу пастаноўкі ў Радашковічах аматарскім гуртком п'есы Ядвігіна Ш. «Злодзей». Многае С. Палуяну было вядома як сучасніку ці нават відавочцу падзей беларускага культурнага жыцця, таму яго сведчанні маюць вялікае значэнне і цяпер. Так, гаворачы пра пастаноўку камедыі М. Крапіўніцкага «Па рэвізіі» ў Мінску ў пачатку XX ст., ён піша: «Гэты вечар меў вялікі поспех і прынёс добры прыбытак. На гэтыя грошы ў 1903 годзе быў выдадзены ў Пецярбурзе зборнічак вершаў «Вязанка». Гісторыя выдання зборніка Янкі Купалы «Вязанка» да канца яшчэ не высветлена. Указанне Палуяна можа даць штуршок для новых пошукаў гісторыкам літаратуры. Тым больш, што прасочваюцца цікавыя аналогіі ў спосабе пераадолення цэнзурных перашкод пры пастаноўцы спектакля «Па рэвізіі» і пры выданні кнігі «Вязанка». І ў першым, і ў другім выпадку, абыходзячы ўказ аб забароне беларускай мовы на сцэне і ў друку, беларускія культурныя працаўнікі дзейнічалі, па сутнасці, аднолькава: паведамілі царскім уладам, што п'еса Крапіўніцкага іграецца па-ўкраінску, але «з беларускім акцэнтам», а што датычыцца кнігі Янкі Лучыны, то яна, быццам бы, напісана на... балгарскай мове. У абодвух выпадках поспех быў дасягнуты: і спектакль, і кніга ўбачылі свет.

Духоўнае адраджэнне роднага народа было сэнсам існавання С. Палуяна. Пачатак яго ён звязваў з першай рускай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыяй («палітычнай завірухай», «завірухай», «часам свабоды» — паводле эзопавай мовы С. Палуяна), якая «ад краю да краю скалыхнула ўсё Расейскае гасударства» («Аб беларускім нацыянальным адраджэнні»). Сацыяльнаму і нацыянальнаму разняволенню народа ён служыў, як мог. Аднак С. Палуян ніколі не замыкаўся ў

нацыянальных межах, ніколі не праяўляў нацыяналістычнай абмежаванасці і высакамер'я. Наадварот, ён, больш за ўсё любячы родны край і народ, нястомна заклікаў вучыцца ў іншых народаў. Раскатурхваючы нацыю ад летаргічнага духоўнага сну, нязменна звяртаўся да вопыту суседзяў — рускіх і ўкраінцаў, палякаў і літоўцаў. С. Палуян першы ў беларускім дарэвалюцыйным друку напісаў пра чувашоў («Нацыянальнае адраджэнне чувашоў») і якутаў («Якуцкі нацыянальны рух»), пра якіх увогуле мала хто ведаў у тагачаснай Беларусі.

Ён расказаў сваім суайчыннікам пра нацыянальнае адраджэнне гэтых народаў, якое звязваў з рухам нізоў, працоўных. Так, гаворачы пра якуцкі нацыянальны рух, С. Палуян указваў, што «гэтага баяліся якуцкія багатыры — тафанье. Разам з начальствам яны рупіліся аб тым, каб задушыць у самым пачатку пачынаючыйся рух». Беларускі публіцыст верыў у светлае будучае малых народаў Расійскай дзяржавы. Якуты, пісаў, у прыватнасці, С. Палуян, «працуюць не пакладаючы рук і смела з надзеяй чакаюць лепшых часоў. І яны дачакаюцца іх».

Зразумела, асаблівае месца ў сэрцы С. Палуяна займалі Украіна, украінская культура, справы нацыянальнага адраджэння ўкраінскага народа. Пяру яго належаць шэсць «Лістоў з Украіны» — палова з сістэматызаванага газетна-публіцыстычнага цыклу, пачатага Я. Журбою. С. Палуян пастаянна інфармаваў беларусаў пра ўкраінскае грамадска-палітычнае і культурнае жыццё, новыя ўкраінскія выданні, цікавасць украінцаў да беларускай літаратуры і г. д. Яго допісы насычаны багатым фактычным матэрыялам, прасякнуты духам братэрскай павагі да Украіны і яе народа, напоўнены пачуццём удзячнасці за разуменне і дапамогу. С. Палуян дае характарыстыку навуковаму і літаратурнаму жыццю тагачаснага Кіева, выказвае сваю перакананасць у тым, што «Кіеў можа і павінен зрабіцца (пакуль у нас на беларускай зямлі не будзе высшых школ, у каторых наша моладзь магла б вучыцца, не выязджаючы з роднага краю) адным з цэнтраў беларускай нацыянальнай работы». Звяртаючыся да моладзі з заклікам яднаць свае сілы, каб дапамагчы свайму народу «выбіцца з цемнаты адвечнай», здабыць светлае і шчаслівае будучае, С. Палуян заканчвае адзін са сваіх лістоў словамі вялікага Кабзара:

І чужому научайтесь,
І свого не цурайтесь,
Бо хто матір забувае,
Того бог карае...

У «Лістах з Украіны» С. Палуян выступае таксама і як тэарэтык перакладу. Сам ён перакладчыцкай працай, відаць, не займаўся (пры-

намсі мы не ведаем пакуль што яго перакладных твораў), але як пісьменнік меў выдатнае адчуванне мовы і стылю, а паколькі працяглы час жыў на Украіне, то, мабыць, добра ведаў украінскую мову. Менавіта таму ён змог даць навукова аб'ектыўны аналіз тагачаснай літаратурнай прадукцыі ў галіне ўкраінска-беларускага і беларуска-ўкраінскага перакладу. Правільна разумеючы пераклад як адно з выяўленняў дружбы паміж народамі, Палуян падкрэсліваў і іншае ў перакладных творах: «Апроч таго, што яны знаёмяць украінскае грамадзянства з нашай літаратурай у яе лепшых рэчах, яны яшчэ знаёмяць і з душою народнай, бо калі твор літаратурны выкананы добра, то ў ім адбілася і нацыянальная душа аўтара, а значыць і народа». С. Палуян выказваў правільнае і на сённяшні дзень меркаванне пра дакладнасць мастацкага перакладу, куды ўваходзяць сэнсавая блізкасць да арыгінала, захаванне духу нацыянальнай паэзіі і высокая ступень мастацкасці («артыстычнасць»).

Да «Лістоў з Украіны» прымыкае і невялікі допіс «Украінскія часопісы», пададзены як рэдакцыйная «ўрэзка» да газетнага фотаздымка вокладак васемнаццаці ўкраінскіх дарэвалюцыйных перыядычных выданняў. У нататцы падкрэслівалася, што так званая «свабода друку» стала фікцыяй: з васемнаццаці часопісаў і газет закрыты дванаццаць (у тым ліку такія прагрэсіўныя выданні, як «Шершень», «Украіна», «Українська думка»; яны не называліся з-за цэнзурных меркаванняў, а толькі паказваліся на здымку). Як на прыклад, які трэба пераймаць, указвае С. Палуян на падтрымку ўкраінцамі сваёй нацыянальнай прэсы. «Усе, для каго непрыемна адраджэнне заціснутага народа,— піша ён,— заўсягды касым вокам пазіралі на ўкраінскія нацыянальныя газеты. Але ўкраінцы так моцна трымаюцца за свой родны грунт, што нічым іх не адстрашыш. І вось яны падтрымліваюць на сваёй зямлі столькі розных часопісаў...» Гэтыя словы С. Палуяна гучалі зваротам і да беларусаў: падтрымлівайце і вы, як украінцы, свае нешматлікія выданні, выпісвайце і прапагандуйце іх...

Увогуле, пра што б і пра каго б ні пісаў С. Палуян, заўсёды ён думаў і дбаў пра родны народ, родную культуру. Тое, што робіцца ў іншых краях, сярод іншых нацый і народаў, ён суадносіў са становішчам у сябе дома. Гэта выразна відаць у «Лістах з Украіны», у закліку «прыкладаць да работы ўсе свае сілы, каб як можна скарэй даганяць нашых старэйшых братоў у развіцці нацыянальнага жыцця». А вось ён, скажам, піша пра чувашоў, пра тое, што «з народу сталі выбівацца больш здольныя людзі». І тут жа дадае: «Але не пакінулі яны яго, як гэта ў нас робіцца, не — яны засталіся на месцы і пачалі працаваць над адраджэннем свайго народу».

Гэты «позірк збоку», суаднясенне духоўных здабыткаў свайго народа з дасягненнямі суседніх славянскіх народаў ляжаў і ў аснове літаратурна-крытычнай творчасці С. Палуяна. Да прамых міжлітаратурных супастаўленняў, паралеляў і аналогій ён адрасаваўся не часта. Але ў самой методыцы яго крытычнага аналізу, у «шкале» ацэнак літаратурных з'яў нязменна адчувалася арыентацыя на той эстэтычны ўзровень, якога дасягнулі на той час руская і ўкраінская літаратуры. Гэта адразу прыдало грунтоўнасць і аб'ектыўнасць літаратурна-крытычным працам С. Палуяна, а тым самым — і ўсёй тагачаснай беларускай літаратурнай крытыцы, паколькі менавіта Палуян з'явіўся адным з яе пачынальнікаў.

Літаратурную крытыку С. Палуян разумеў як «рухомую эстэтыку» (В. Бялінскі), як пасрэдніцу паміж пісьменнікам і чытачом. Ён выступаў за літаратуру баявітую, высокаідэйную і высокамастацкую, якая б выхоўвала ў чытачоў дэмакратычныя погляды, высмейвае тых, хто лічыў, што «народ можна карміць толькі салодзенькаю юшкаю з навару народна-сентыментальнай пісаніны» («Выдавецтва «Час»). С. Палуян быў за тэндэнцыйную літаратуру. Аднак у сапраўдным творы тэндэнцыя, справядліва лічыў ён, «не вылазіць наверх, як шыла з мяшка, а ляжыць у самой сутнасці паэтычнага таленту аўтара», пэўныя ідэі «прышчэпліваюцца... не гучнымі словамі, а паэтычнымі вобразамі» («Якуб Колас. Другое чытанне для дзяцей беларусаў»). Мастак павінен не прапаведаваць голыя ісціны, а «тварыць і паказваць». Толькі ў такім выпадку літаратура можа мець выхаваўчае значэнне.

Гэтыя палажэнні знайшлі сваё ўвасабленне ў рэцэнзіях С. Палуяна на кнігі Якуба Коласа «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» і Ядвігіна Ш. «Дзед Завала», на ананімную паэму «Тарас на Парнасе», а таксама на «Першы беларускі каляндар «Нашае нівы» на 1910 год». Часам, аднак, рэцэнзент, ацэньваючы творы па самаму высокаму рахунку, адступае ад прынцыпу гістарызму, і тады заўважаецца недаацэнка некаторых ранніх твораў беларускай літаратуры («Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе», «Беларускі лемантар» К. Каганца, «Першае чытанне для дзетак беларусаў» Цёткі і інш.). Здараецца гэта ў тых выпадках, калі крытык факты літаратурнага жыцця вычляняе з канкрэтна-гістарычных умоў іх узнікнення і развіцця і без усялякіх агаворак уводзіць іх у кантэкст сучаснага яму літаратурнага працэсу. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што бывае такое не часта.

С. Палуяну належыць першы ў беларускай крытыцы гадавы агляд літаратуры. Артыкулам «Беларуская літаратура ў 1909 гаду» ён распачаў літаратурна-крытычны жанр, які затым плённа прадаўжаў і развіваў М. Багдановіч. У артыкуле, зыходзячы са сваіх метада-

лагічных установак, С. Палуян коратка ахарактарызаваў творчасць беларускіх літаратараў за адзін год. Найбольшую ўвагу, зразумела, ён удзяліў Янку Купалу, ад якога «Беларусь можа чакаць многа», перад якім «вялікая будучыня, калі толькі ён не сойдзе з выбранага гасцінца». У сярэдзіне 1909 г. С. Палуян заўважае «паварот» у творчасці Я. Купалы: «Новыя творы яго акуратна абдуманыя, тэм розных многа, форма лёгкая, усюды артыстычна апрацаваная. Калі і бачым дзе-якія няхваты, дык відаць і ўнутраная сур'ёзная работа, праўдзівае разуменне задач літаратуры». З іншых літаратараў, творчасць якіх заслугоўвае ўвагі, крытык вылучае Цётку, Якуба Коласа, М. Багдановіча, Ядвігіна Ш., К. Буйло і А. Паўловіча. Прычым, гаворачы пра Якуба Коласа, ён падкрэслівае «ненармальныя ўмовы яго жыцця», якія «не даюць яму можнасць акуратна развівацца». Якуб Колас у той час сядзеў у мінскім астрозе. На гэтую акалічнасць якраз і намякаў С. Палуян.

Дакладнасць і аб'ектыўнасць ацэнак Палуяна-крытыка, дадзеных ім у артыкуле «Беларуская літаратура ў 1909 гаду», знайшлі пацвярджэнне ў працы М. Багдановіча «За тры гады». Па сутнасці, ацэнкі гэтыя супалі.

С. Палуян стаў і адным з першых гісторыкаў беларускай літаратуры. Яго даследаванне «Беларуская паэзія ў яе тыповых прадстаўніках. І. Народная славеснасць і першыя спробы штучнай паэзіі» — гэта першая ў беларускім літаратуразнаўстве спроба стварыць сістэматычны курс гісторыі новай беларускай літаратуры. Вызначальнай для С. Палуяна з'яўляецца думка, «што адраджэнне любога народа пачынаецца з нараджэння ў яго сваёй уласнай літаратуры». У адпаведнасці з гэтым «зачаткі» новай літаратуры ён адносіць да канца XVIII — пачатку XIX ст.— так, як гэта прынята і ў сягоняшнім літаратуразнаўстве. Даследчык бачыць грамадска-палітычныя і культурныя чыннікі, якія прывялі да зараджэння беларускай літаратуры. Сярод іх ён вылучае палітычнае банкруцтва Рэчы Паспалітай і ўваходжанне Беларусі ў склад Расійскай дзяржавы, «цікавасць да ўсёй беларушчыны» з боку рускіх і польскіх вучоных (этнографаў, фалькларыстаў, гісторыкаў), а таксама росквіт рамантызму, які «прымушаў заглядаць глыбей у народ, у яго духоўны свет, у яго мінулае, прымушаў тварыць красу з гістарычных мясцовых перажыткаў». На развіццё беларускай літаратуры непасрэдны ўплыў аказвалі палітычныя падзеі, што адбываліся на беларускай зямлі (паўстанне 1830-1831 гг., паўстанне 1863 г. у Беларусі і Літве). С. Палуян паказвае, як мясцовы патрыятызм, што «нарадзіўся і вырас... з шчырага пачуцця сувязі з народам і абавязку перад ім», прыводзіць урэшце да першых спроб

беларускамоўнай творчасці — «наіўнага дзіцяці наіўнага рамантызму». Гэта «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», вершаваныя творы А. Рыпінскага, Яна Чачота і Яна Баршчэўскага. С. Палуян, як на сённяшні погляд, іх яўна недаацэньвае, лічыць, што «ні адзін твор гэтага часу не застанецца ў гісторыі літаратуры». Сапраўдным жа «першым беларускім пісьменнікам, першым літаратурным імем на безлітаратурнай Беларусі» ён называе В. Дуніна-Марцінкевіча, які «набыў сабе бяссмерце сярод свядомых беларусаў».

На жаль, смерць не дазволіла давесці даследаванне да канца. А наступнай павінна была быць публікацыя пра В. Дуніна-Марцінкевіча.

Жывучы ў Кіеве, «у эміграцыі», як гаварыў С. Палуян, ён сачыў уважліва і за развіццём украінскай літаратуры. Сярод шырокай плыні літаратурнай прадукцыі беларускі крытык здолеў вылучыць і належна ацаніць творчасць І. Франка, М. Кацюбінскага, В. Стафаніка, У. Вінічэнкі. Так, характарызуючы дзейнасць найбольш папулярнага тады выдавецтва «Час», С. Палуян, выступаючы з пазіцый крытыка-дэмакрата, адзначае, што як перакладныя, так і арыгінальныя творы часта «ўражваюць тэцдэнцыйным падборам сюжэтаў і іх апрацоўкі». Сюжэты трагічныя, а апрацоўка саладжавая, сентыментальная. «А дзе ж Віннічэнка, Кацюбінскі, Стафанік (асабліва Стафанік), Франко і іншыя?»— з абурэннем пытаецца крытык.

З той жа вымогай улічваць патрэбы чытача з народа, асабліва чытача-селяніна, С. Палуян рэцэнзуе «Народны каляндар «Село» на 1910 год», супастаўляючы яго з іншымі ўкраінскімі і рускімі календарамі.

Цікавіўся С. Палуян і развіццём украінскай драматургіі. Так, яго ўвагу прыцягвае драма Г. Вашчанкі «Сляпы». І хоць, па сутнасці, нічога з творчасці гэтага пісьменніка не вытрымала выпрабавання часу, аднак да гэтай п'есы даследчыкі ўкраінскай драматургіі звярталіся часта, паколькі яна цікавая сваімі жанравымі адзнакамі. Гэта псіхалагічная п'еса, якая па форме нагадвае сучасны сцэнарый.

Публіцыстыкай і крытыкай творчасць С. Палуяна не абмяжоўвалася. Паводле сведчанняў сучаснікаў, ён пісаў «вершы з багатым зместам, апавяданні на сучасны лад», п'есы для тэатра, складаў «зборнік цудоўных малюнкаў-сімвалаў» для дзяцей, хрэстаматыю па гісторыі Беларусі, навукова-папулярныя кніжкі для народа. З усяго гэтага захавалася толькі апавяданне «Вёска» і верш у прозе «Хрыстос уваскрос!», апублікаваныя ў свой час на старонках «Нашай нівы». У «Вёсцы» ў алегарычнай форме паказваецца разарэнне, гібель старой беларускай вёскі, асуджанай на смерць варожаю ёй сілаю. Сіла ж гэта (хоць яе Палуян прама не называе, але яна лёгка ўгадваецца) —

жорсткі сацыяльны і нацыянальны прыгнёт. Супрацьлеглы «Вёсцы» па настрою і танальнасці верш у прозе «Хрыстос уваскрос!». У ім пісьменнік, пераасэнсоўваючы агульнавядомы міф аб уваскрасенні Хрыста, гаворыць пра непазбежнасць духоўнага адраджэння Беларусі, называе свята вялікадня «святам адвечнага ажыўлення», выказвае цвёрдую ўпэўненасць, што родны край уваскрэсне, скіне «з шыі ярмо адвечнага гора і нуды». Рэлігійны міф, як бачым, напаўняецца новым алегарычным зместам.

Такім чынам, у сваёй творчасці С. Палуян выявіў сябе чалавекам перадавых поглядаў, прадаўжальнікам традыцый вялікіх расійскіх рэвалюцыйных дэмакратаў В. Бялінскага і Т. Шаўчэнкі, М. Дабралюбава і М. Чарнышэўскага, адным з выразнікаў ідэй беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Лексікон яго ўвабраў паняцці і тэрміны выразна класавага, а падчас і марксісцкага словаўжывання: народныя масы, класавы антаганізм, нацыянальны антаганізм, ход прагрэсу, свядомы нацыянальны патрыятызм, правінцыяналізм і г. д. Логіка і вобразнасць яго выказванняў былі зразумелыя і даступныя чытачам: «...Пакуль што трэба раскідаць усё новае і новае насенне. Мо і кепская доля спаткае яго, мо і зніштожыць яго нягодай ды сцюдзёным сіверам,— але не сяўцам думаць аб гэтым! У іх адна мэта — болей зёрнаў кінуць у сагрэтую сонцам раллю».

С. Палуян сам быў нястомны «сявец у родных слоў сяўбе» (Я. Купала). Ён рассяваў зерне светлых думак — нібы слаў лісты ў будучыню, наладжваў трывалую сувязь з патомкамі, з намі. І мы шчасліва адклікаемся на яго вечна малады і шчыры голас.

*1986 г.*

# ШТО НЕ ЎВАЙШЛО Ў КНІЖКУ

*Рознага роду вульгарызатары доўга і зусім не бязвінна практыкаваліся наконт «буржуазнага нацыяналізму» і «кулацкай ідэалогіі» С. Палуяна... Ім мы «абавязаны» тым, што палымянае слова пісьменніка-публіцыста з вялікім спазненнем дайшло да нас, ягоных нашчадкаў.*

Уладзімір Конан. «Талент светлы і трагічны»

Уладзімір Конан мае рацыю. Але — толькі частковую. Бо доўгі час нельга было выдаць асобную кніжку Сяргея Палуяна па іншай прычыне: і творы яго, раскіданыя па розных дарэвалюцыйных, пераважна ўкраінскіх, перыядычных выданнях, нялёгка было расшукаць, і самых элементарных біяграфічных звестак неставала пра пісьменніка. Несумненна, ярлыкі, навешаныя на яго, таксама рабілі сваю справу. Да нядаўняга часу ў «ярых буржуазна-нацыяналістычных» выданнях хадзілі «Наша ніва», кіеўская газета «Рада» і часопіс «Українська хата», а С. Палуян жа — выразны нашанівец, актыўны аўтар гэтых украінскіх выданняў."

Таму, калі мы гадоў дваццаць таму назад задумалі скласці кніжку С. Палуяна (а ён заслужыў мець сваю кніжку!), то сутыкнуліся з цяжкасцямі як аднаго, так і другога роду. І тое, і другое паступова перадольвалася — настойлівай, карпатлівай працай у архівах і бібліятэках Мінска, Львова, Кіева, Вільнюса, Масквы, Ленінграда, размовамі-кансультацыямі са спецыялістамі-літаратуразнаўцамі, нават звычайным чалавечым шанцаваннем (пашанцавала ж нам застаць яшчэ жывымі трох сясцёр Палуяна!).

І ўсё ж калі на пачатку 80-х гадоў рукапіс кнігі Сяргея Палуяна «Лісты ў будучыню» з'явіўся ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», для яго выдання спатрэбілася па тым часе не толькі зацікаўленасць, але і асабістая смеласць не аднаго чалавека. Найперш — выдавецкіх работнікаў. Гэта і не дзіўна: толькі што асобныя з іх атрымалі суровыя спагнанні за «страту палітычнай пільнасці» — публікацыю асобных твораў В. Быкава, здачу ў набор «Тутэйшых» Я. Купалы і інш. Аднак тагачасны дырэктар выдавецтва М. Дубянецкі, галоўны рэдактар С. Андраюк і рэдактар кнігі Р. Барадулін зрабілі ўсё, каб кніга ўбачыла свет. Праўда, для гэтага спатрэбілася падтрымка і народнага пісьменніка Беларусі, Героя Сацыялістычнай Працы Івана Шамякіна, закрытую выдавецкую рэцэнзію якога давялося «адкрыць» і надрукаваць на пачатку кнігі як сведчанне яе вартасці і добранадзейнасці.

А было гэта роўна праз год пасля лёсапаваротнага красавіцкага пленума ЦК КПСС 1985 года, з якога начала свой адлік Перабудова. Якраз у дні чарнобыльскай катастрофы, што чорнай хмарай накрыла Брагін і іншыя родныя мясціны С. Палуяна...

Кніга «Лісты ў будучыню» выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1986 годзе. Яе з прыхільнасцю сустрэлі чытачы і крытыкі. «Выхад у свет такой кніжкі — зусім не радавая з'ява ў нашай выдавецкай практыцы»,— адзначыў У. Конан («ЛіМ», 1986, 24 кастрычніка). «Сустрэча назаўсёды»,— так назваў сваю рэцэнзію на гэта выданне М. Ермаловіч, падкрэсліўшы: «Упершыню выдадзеная кніга С. Палуяна дае яму другое жыццё, паказвае яго месца ў шэрагу выдатных імёнаў Беларусі» («Полымя», 1987, № 1). На думку ж М. Мушынскага, «выхад «Лістоў у будучыню» — гэта прыкметная падзея ў грамадскім і культурным жыцці рэспублікі» («Нёман», 1987, № 8). Заўважылі, высока ацанілі кнігу і ўкраінцы. «Ці ж не варта кароткае жыццё Сяргея Палуяна асобнай кнігі і на Украіне?» — такім рытарычным пытаннем закончыў свой роздум пра творчасць беларускага пісьменніка Раман Іванычук («Літературна Україна», 1987, 19 лістапада).

Што ж увайшло ў кніжку?

Бадай, за адзіным выключэннем,— усё, што паспеў С. Палуян надрукаваць за сваё бліскавічнае жыццё на старонках беларускай і ўкраінскай перыёдыкі. Гэта апавяданне «Вёска», верш у прозе «Хрыстос уваскрос!», публіцыстычныя і крытычныя артыкулы. Ніколі яшчэ палуянаўскія творы не сыходзіліся ўсе разам, не станавіліся побач. Увогуле, да выдання кніжкі толькі асобныя творы пісьменніка перадрукоўваліся ў нешматлікіх зборніках і хрэстаматыях. Так, апавяданне «Вёска» і верш у прозе «Хрыстос уваскрос!» уключаліся ў анталогію «Дыяменты беларускага прыгожага пісьменства» (Кіеў, 1919), а ў хрэстаматыю крытычных матэрыялаў «Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст.» (Мінск, 1978) увайшло некалькі артыкулаў. Вось, бадай, і ўсе публікацыі.

Многае са спадчыны пісьменніка яшчэ не адшукана, а магчыма, страчана для нас назаўсёды. Аднак і тое, з чым мы можам сёння пазнаёміцца — а творы гэтыя склалі ў кнізе раздзел «Нештодзённы пагляд»,— істотна пашырае наша ўяўленне пра таленавітага пісьменніка, рэвалюцыйнага дэмакрата, аднаго з пачынальнікаў навейшай беларускай літаратуры, сучасніка і блізкага сябра вялікага Янкі Купалы.

У раздзеле «Светлы след» сабраны разам успаміны пра С. Палуяна яго родзічаў і сучаснікаў, водгукі на смерць пісьменніка, прысвечаныя яму паэтычныя і празаічныя творы Я. Купалы, М. Багдановіча,

Ц. Гартнага, А. Гурло, Ядвігіна Ш. і інш. Акрасай кнігі «Лісты ў будучыню» сталі ўспаміны родных сясцёр Палуяна — Зінаіды, Людмілы і Ангеліны, а таксама арыгінальныя біяграфічныя нататкі аднаго з пляменнікаў пісьменніка — Анатоля Шаліна. Нямала дадаюць да характарыстыкі «беларускага Бялінскага» (як часам называлі Палуяна да рэвалюцыі) асобныя архіўныя матэрыялы (напрыклад, творы Ц. Гартнага), а таксама публікацыі, што былі раскіданы па старонках дарэвалюцыйнай перыёдыкі.

І ўсё ж кніга С. Палуяна «Лісты ў будучыню» магла быць багацейшая, калі б не асобныя акалічнасці.

Самае крыўднае тое, што некаторыя матэрыялы ў яе нельга было ўключыць з-за прозвішчаў, якія ў той час нават упамінаць нельга было ў друку. Гэта найперш прозвішчы У. Віннічэнкі, Г. Чупрынкі, В. Ластоўскага, А. Луцкевіча...

Чытачы кнігі, несумненна, заўважылі некалькі пропускаў у тэксце, пазначаных шматкроп'ем у квадратных дужках, у прыватнасці — у рэцэнзіях С. Палуяна на п'есу Г. Вашчанкі «Сляпы» і чацвёртую серыю кніжак, выпушчаных выдавецтвам «Час». У дадзеным выпадку шматкроп'ем заменена прозвішча вядомага ўкраінскага пісьменніка Уладзіміра Кірылавіча Віннічэнкі (1880-1951), які доўгі час насіў кляймо «нацыяналіста» і «антысаветчыка». Калі само прозвішча нельга было ўпамінаць, то што ўжо казаць пра публікацыю рэцэнзіі С. Палуяна на «Трэцюю кніжку апавяданняў» У. Віннічэнкі (Кіеў, 1910)! Зразумела, рэцэнзія гэта ў «Лісты ў будучыню» не ўвайшла.

Беларускі крытык, як і многія яго калегі пачатку XX ст., з захапленнем вітаў з'яўленне на мастацкім небасхіле У. Віннічэнкі, можа, нават перабольшваў яго тагачасны ўклад ва ўкраінскую літаратуру («...Украіна... з 1902 года, з часу выхаду на літаратурную ніву Віннічэнкі, не бачыла ні аднаго больш-менш свежага пісьменніка-белетрыста». З рэцэнзіі С. Палуяна на п'есу Г. Вашчанкі «Сляпы»), Аднак трэба ўлічыць, што С. Палуян быў сведкам самага пачатку плённай літаратурнай працы, імклівага творчага ўзлёту ўкраінскага празаіка, драматурга і публіцыста, калі той увогуле рэалістычна адлюстроўваў жыццё вясковых пралетарыяў («Каля машыны», «Галыцьба» і інш.). Разам з тым беларускі крытык нават у той час прыкмеціў пэўны ідэйна-мастацкі паварот у творчасці Віннічэнкі, абумоўлены некаторымі зменамі ў яго светапоглядзе пасля паражэння рэвалюцыі 1905-1907 гг., што пазней прывяло аўтара «Трэцяй кніжкі апавяданняў» да вядомых супярэчнасцей у яго творчасці і грамадска-палітычнай дзейнасці.

І ўсё ж асноўныя ацэнкі творчасці Віннічэнкі, дадзеныя С. Палуянам на зары нашага стагоддзя, сёння бліскуча пацвярджаюцца як украінскімі крытыкамі, так і выдаўцамі. Творы пісьменніка цяпер шырока ідуць да чытача, пра іх захоплена пішуць у сучасным друку.

Аднак давайце звернемся непасрэдна да рэцэнзіі С. Палуяна на «Трэцюю кніжку апавяданняў» У. Віннічэнкі, уважліва перачытаем яе. Надрукавана яна была ў першым нумары часопіса «Українська хата» за 1910 год. Падаём яе ў сваім перакладзе на беларускую мову:

У асобе Віннічэнкі мы маем пісьменніка, прызнанага і нашаю крытыкаю, і шырокай грамадскасцю, пісьменніка, які здолеў захапіць чытача свежасцю і яскравасцю фарбаў, глыбокім псіхалагічным аналізам сучаснай душы, мастацкай смеласцю, маем пісьменніка, які адразу стаў ды і дагэтуль трымаецца на чале ўкраінскай мастацкай думкі. Гэта адказнае становішча, зразумела, шмат патрабуе ад яго, бо ўвесь час трымае яго на вачах у грамадства і ў пасрэдніка між пісьменнікам і чытачом — крытыкі, а таксама ў чытача, які сочыць за кожным яго хістаннем у той ці іншы бок, з асабліваю ўвагаю адносіцца да кожнага яго новага твора. Мабыць, таму і сустракаем у апошні час так многа размоў пра «гібель мастака», пра ўпадак мастацкай творчасці Віннічэнкі, пра згубны на яго ўплыў тэндэнцыі яго «новай маралі». Праўда, пошукі гэтай новай маралі, што давала б прастору для развіцця самых разнастайных адценняў чалавечай індывідуальнасці, захапілі аўтара. Раз-пораз вяртаецца ён да ўзнятага пытання, знаходзячы ў ім усё новыя і новыя тэмы, ставячы чалавека з яго ўчынкамі ў розныя, часам вельмі вострыя, узаемаадносіны са знешнім светам і з уласнымі, асабістымі перажываннямі. Права чалавека на новае светлае жыццё, вольнае ад усіх путаў традыцыйнай мяшчанскай маралі і залежнае толькі ад аднаго свайго я, знайшло апалагета ў Віннічэнку. У гэтай галіне — уся сфера яго творчасці. Тут ён сам вольны і смелы, вялікі тварэц новага храма, руіннік апошленага капішча і яго ідалаў-бажкоў. Гэта вышэйшы пункт творчасці, калі ўтрымаемся на ім, калі не станем прапаведаваць сухія ісціны натоўпу, што корпаецца ўнізе, замёст таго каб тварыць і паказваць. Ад мастацкіх вобразаў да маралізавання — адзін крок.

Віннічэнка не ўтрымаўся ў сферы чыста мастацкай творчасці, а захацеў агністым словам загаварыць да сучаснікаў. Ды яшчэ ж вялікае пытанне, ці зможа (не захоча, а зможа!) пачуць грознае слова натоўпу ў вялікім базарным шуме жыцця? Усе найлепшыя словы ён ужо апаганіў. Слова — словам, учынак — учынкам. Да гэтага сучаснасць прызвычаіла нас. Аднак жа кожны ўбачыць і спыніцца здзіўлены перад велічным будынкам мастацтва.

Будаваць раскошны палац можа не ўсякі, гаварыць жа зможа кожны. Ці гучна, ці не — гэта іншае пытанне. Загаварыў і Віннічэнка, яшчэ далека не дайшоўшы да вяршыняў творчасці. Пачаў даваць запаведзі, новыя ісціны і, зразумела, прынізіў мастацкую вартасць сваіх твораў.

Гэта, галоўным чынам, прыкметна ў яго драмах — можа, таму, што ён зусім не драматург, а толькі падхоплены хваляю ўсеагульнага драмапісання, драмы яго слабейшыя, чым проза. Імкненне сказаць нешта павучальнае, зрабіць апошні лагічны вывад з твора, мастацкімі вобразамі давесці нечае права на нешта зводзяць яго драмы да нейкіх этычных трактатаў. Праз гэта дзейныя асобы здаюцца не праўдзівымі жыццёвымі тыпамі, не людзьмі, а маральнымі схемамі, публіцыстычнымі доказамі.

Свабодныя ад гэтай хібы апавяданні. Ёсць і ў іх гэта асноўная рыса Віннічэнкі — зачапіць балючае месца, хворае сумленне сучаснага грамадства. Ёсць і ў іх моцны пратэст супраць будзёншчыны і фальшу, супраць прыгнёту чалавека, але гэта ўжо пратэст мастака, а не публіцыста. І тут нават няма гутаркі пра ўпадак, пра маралізаванне. Тут перад намі знаёмы нам даўно Віннічэнка, толькі больў сталы, больш, чым заўсёды, глыбокі і арыгінальны.

Праўдзівы і зоркі аглядальнік жыцця, ён смела ўглядаецца ў яго, смела заглядае ў сарамліва схаваныя таямніцы. Адкрывае іх перад намі ды і прымушае не адварочвацца ад іх. Да таго ж, зусім сучасны, але сучасны не дробнай тэмаю моманту, а тымі формамі, у якія сучаснасць апраўляе адвечныя пытанні чалавечага духу. Праклятыя пытанні, як ахрысціла іх чалавецтва. Так званая «праблема полу», адно з найгалоўнейшых пытанняў, прыцягнула Віннічэнку да сябе. Ёй прысвечаны ў кнізе тры апавяданні: «Момант», «Рабыні сапраўднага» і «Купля». Гераіня іх — жанчына, якая не можа пазбавіцца ад вечнага цяжару рабства. Усе яны: і Муся («Момант»), і дзве антытэзы з «Рабынь сапраўднага», і Іра («Купля»), і нават Зіна — маюць нешта агульнае ў сабе, нягледзячы на розныя ўмовы жыцця і свайго становішча. Усе яны паасобку ўяўляюць сабой жанчыну, пяшчотную і гераічную часам, верную і прадажную, але самку перш за ўсё. І не толькі аўтарскі тэзіс «Без купіла да дзеўкі не лезь» падкрэслівае гэта. Тэзіс — толькі рысы, а фон складаецца з саміх постацей такіх жанчын.

Вялікае ўражанне робіць апавяданне з турэмнага жыцця «Нешта большае за нас». Гэта нешта — тое, што зрабіла з двух прыяцеляў, пасаджаных у адну камеру, бязлітасных ворагаў. Турэмныя ўмовы толькі павялічваюць нянавісць. І нядаўнія прыяцелі робяць мэтаю жыцця чыніць як мага больш прыкрасцей адзін аднаму. А працуючы

ў адным і тым жа напрамку, думка дыктуе такія віртуозныя ўколы, што свежаму чалавеку здаліся б найальтруістычнымі ўчынкамі. Уся атмасфера абвостранага нянавісцю пачуцця так і вее на чытача са старонак кніжкі.

«Глум» і «Запісная кніжка» — апавяданні з рэвалюцыйнага жыцця. У першым намаляваны асуджаны на смерць перад пакараннем. Намаляваны яскрава. Другое апавяданне — псіхалагічны эскіз, як злоўлены рэвалюцыянер сілаю свайго пафасу імпануе сялянам і прымушае іх паверыць у яго непрыналежнасцъ да «аратараў».

«Камедыя з Косцем» належыць да раней напісанага цыклу з жыцця вясковай галоты і закранае вечна жывое пытанне пра байструкоў.

У кніжку ўвайшлі апавяданні Віннічэнкі, напісаныя за апошнія гады, толькі невядома чаму не змешчана апавяданне «Студэнт», што друкавалася ў «Літературно-науковому віснику» ў 1907 годзе.

Трэба адзначыць яшчэ мастацкасць вонкавага афармлення кніжкі, што бывае дужа рэдка ва ўкраінскіх выданнях. Гэта ўжо заходы выдавецтва, якія трэба шчыра прывітаць.

У 1986 годзе нельга было ў друку ўпамінаць і прозвішчы яшчэ двух украінскіх пісьменнікаў, блізкіх сяброў Сяргея Палуяна — Ёсіпа Юр'евіча Гермайзе (1892-1937) і Грыцька Аўрамавіча Чупрынкі (1879-1921). Першы быў рэпрэсіраваны ў 1929 годзе за прыналежнасць да выдуманага органамі НКУС «Саюза вызвалення Украіны» і рэабілітаваны толькі ў жніўні 1989 г. «з-за адсутнасці ў дзеяннях складу злачынства» (Потебенько Ю. Протест.— «Литературна Украіна», 1989, 31 жніўня). Другі — па «трагічнай выпадковасці» (прыгадваецца тут лёс вядомага рускага паэта М. Гумілёва) расстраляны органамі ЧК на пачатку 20-х гадоў (Жулинський М. Григорій Чупринка.— «Літературна Украіна», 1988, № 30)...

Невялікі ўрывак з успамінаў Ё. Гермайзе пра С. Палуяна ў «Лістах у будучыню» ўсё ж удалося надрукаваць. Аднак, на жаль, у кнізе не змешчаны фотапартрэт Ё. Гермайзе, падараваны С. Палуяну з такім шматзначным подпісам: «Шукальніку праўды на зямлі, чалавеку чулае душы, шчыраму сябру Сяргею Палуяну ад Ёсіпа Гермайзе. 19.11.1910 г.». Дарэчы, у альбоме Н. У. Бахонкі захаваўся яшчэ адзін фотаздымак, на якім Ё. Гермайзе сфатаграфаваны разам з Іванам Бахонкам і нейкім невядомым, інтэлігентнага выгляду (у капелюшы і пенснэ) мужчынам. Усё гэта сведчыць пра тое, што Ё. Гермайзе быў выключна блізкі да С. Палуяна і яго акружэння.

С. Палуян падтрымліваў сяброўскія адносіны з Г. Чупрынкам. Што магло зблізіць іх, далека не равеснікаў? (Сяргей быў маладзейшы за свайго пабраціма на цэлых адзінаццаць гадоў.) Відавочна, адзінства

палітычных поглядаў (абодва яны ўдзельнічалі ў падпольнай рабоце РСДРП), блізкасць літаратурных упадабанняў, сумесная праца ў кіеўскім часопісе «Українська хата» з самага яго заснавання ў 1909 годзе. Вельмі шмат кажа такі факт: беларускі і ўкраінскі пісьменнікі настолькі здружыліся, што ў скрушны для абодвух момант вырашылі разам падвесці рысу пад сваімі жыццямі. Вядомы вучоны-мовазнавец і літаратар прафесар П. Бузук, які вельмі многае ведаў пра беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемаадносіны, і зусім не па чутках (украінец, ён у 20-я гады пераехаў у Мінск на выкладчыцкую працу ў БДУ), пісаў у 1928 годзе: «Сябраваў Палуян з маладым украінскім паэтам Чупрынкам, разам з якім быццам і даў абяцанку ліквідаваць рахункі з жыццём. Гэтую абяцанку Палуян і выканаў шчыра» («Маладняк», 1928, № 7, с. 80). Па жаль, у 1910 годзе ў С. Палуяна не знайшлося маральнай і матэрыялънай апоры ў тых невыносных умовах, у якіх ён апынуўся. У Г. Чупрынкі такая апора знайшлася — найперш у асобе нечаканага добразычліўца А. Каваленкі, які сабраў у перыёдыцы і выдаў за свой кошт усе творы ўкраінскага паэта. Гэта, відаць, і ўтрымала яго ад самагубства ў тым ракавым годзе, дазволіўшы пражыць яшчэ адзінаццаць цяжкіх, складаных, але і плённых гадоў.

Відавочна, С. Палуян пазнаёміў з творчасцю Чупрынкі Янку Купалу і М. Багдановіча — сваіх блізкіх таварышаў, паплечнікаў на ніве нацыянальнага адраджэння. Жывучы ў Кіеве і ўдзельнічаючы ва ўкраінскім літаратурна-грамадскім жыцці, С. Палуян меў магчымасць назіраць літаральна за першымі літаратурнымі крокамі Чупрынкі, які 13 мая 1907 года ў газеце «Рада» апублікаваў свой першы верш на ўкраінскай мове «Мая кобза». Не ўлічваючы ранняй добразычлівай атэстацыі — «падказкі» С. Палуяна, цяжка зразумець творчы выбар Янкі Купалы, які яшчэ ў 1908 годзе пераклаў на беларускую мову два вершы Г. Чупрынкі — «Песняру» і «Не каханак чарнавокіх...». Несумненна, помніў пра палуянаўскую атэстацыю Чупрынкі і М. Багдановіч, калі ў 1916 годзе пісаў свой вялікі артыкул «Грыцько Чупрынка»...

З другога боку, зусім магчыма, што якраз С. Палуяна меў на ўвазе Г. Чупрынка ў сваім вершы «Над магілаю таварыша», які выявіў у архіве паэта і ўпершыню апублікаваў М. Жулінскі («Літературна Україна», 1988, № 30).

У кнігу «Лісты ў будучыню» не трапілі — па тых жа прычынах — і матэрыялы, якія паказваюць узаемаадносіны С. Палуяна з беларускімі культурнымі працаўнікамі Вацлавам Юстынавічам Ластоўскім (1883-1938) і Антонам Іванавічам Луцкевічам (1884-1946), што таксама доўгі час хадзілі ў «буржуазных нацыяналістах». «Мае ўспаміны аб М. Багдановічу» В. Ластоўскага ў 1926 годзе былі апублікаваны ў ковенскім

часопісе «Крывіч» (№ 1). Аўтар успамінаў называе ўсіх супрацоўнікаў «Нашай нівы» ў 1909 годзе, калі на працу ў газету прыехаў С. Палуян, дае ім належную характарыстыку, паказвае змаганне Палуяна за публікацыю ў газеце вершаў М. Багдановіча і інш. Сёння гэты матэрыял (гл. перадрук успамінаў у «ЛіМе», 1989, 22 верасня) можна прачытаць і таму няма сэнсу яго цытаваць або хаця б падрабязна пераказваць. Іншая справа — меней вядомыя ўзаемадачыненні С. Палуяна і А. Луцкевіча, пра што згадваў Цішка Гартны, але што, зразумела, некалькі гадоў назад нельга было папулярызаваць, Таму ўспаміны Цішкі Гартнага «Дваццаць гадоў назад», надрукаваныя ў кнізе С. Палуяна «Лісты ў будучыню», і абрываюцца на паўслове.

Давайце ж цяпер раскрыем шматкроп'е, паглядзім, што за ім стаіць. Вось што, у прыватнасці, пісаў Цішка Гартны ў 1929 годзе: «С. Палуян, згодна яго словам, належаў у той час да ўкраінскіх сацыялдэмакратаў, быў досыць лева-настроеным чалавекам, дэмакратам чыстае «думкі». Дзякуючы гэтаму нас абоіх больш за ўсё цягнула да Антона Луцкевіча, у гутарках з якім мне ўдалося пераканацца, што ён належыць да с.-д., не далучаючыся да ніводнае іх фракцыі. Аднак, у справе падзялення ім інтэрнацыянальнасці рабочага руху і ў пытанні падвядзення выразнай сацыяльнай базы пад беларуска-нацыянальны рух мы разыходзіліся. У доказах і спрэчках А. Луцкевіч выглядаў у маім ваччу не зусім вытрыманым сацыял-дэмакратам, як мне тады паказалася. Памятаю, калі мне з ім у будынку бібліятэкі Даніловіча, дзе, здаецца, А. Луцкевіч меў для сябе мізэрны прытулак, давялося заўзята і доўга спрачацца па пытанню інтэрнацыяналізацыі і пралетарскасці сацыял-дэмакратычнага руху!..

Я адчуваў у А. Луцкевічу добра падгатаванага чалавека, але, урэшце, астаўся далека непераможаным у дыскусіі з ім... З іншымі сябрамі рэдакцыі мне было зусім лёгка спрачацца, і я многа разоў раскрываў іх недасканалую, па-мойму, сацыялістычную платформу. Цалкам задавальнялі мяне погляды С. Палуяна. Вось за гэтым я з ім за кароткі час вельмі блізка зжыўся, узлюбіў яго і шкадаваў расстацца» («Полымя», 1929, № 5, с. 167).

* * *

Калі ўсё, пра што ішла гаворка дагэтуль, можна было ў кнігу — пры належных варунках — уключыць, то ўспаміны пра Сяргея Палуяна яшчэ адной, самай старэйшай, яго сястры, Ганны, у «Лісты ў будучыню» ніяк не маглі трапіць: з імі нам давялося пазнаёміцца пасля таго, як кніга выйшла ў свет. Гэта і не дзіўна, бо публікаваліся яны ў недаступнай для нас у той час «Беларускай газеце», што выдавалася ў

гады фашысцкай акупацыі ў Мінску. Успаміны былі змешчаны ў адной з публікацый пра С. Палуяна. Публікацыя сама па сабе мала цікавая, прычым — яшчэ і нясконачаная. Найбольш каштоўнае ў ёй — гэта якраз пераказ успамінаў Ганны Палуян пра меншага брата Сяргея.

Калі б мы ведалі гэту публікацыю, многае ў біяграфіі пісьменніка яшчэ раней пазбавілася б арэолу таямнічасці, невядомасці, няпэўнасці. Але тады ці вялі б мы з такой апантанасцю пошук родных сясцёр Палуяна, якія — разам — паведамілі нам пра яго больш і дакладней, чым зрабіла гэта адна Ганна? Разам з тым успаміны Ганны (сям-там, трэба сказаць, не зусім дакладныя) дадаюць да Палуянавага вобраза новыя штрыхі, новыя дэталі...

Паводле Ганны Палуян, нарадзіўся Сяргей 7 кастрычніка 1890 года ў двары Астрагляды (на самай справе нарадзіўся ён у Брагіне, у чым не сумнявалася ніводная з трох сясцёр, з якімі мы гутарылі). У 1900 годзе, маючы дзевяць з паловай гадоў, здаў іспыты ў першы клас Мазырскай прагімназіі і пачаў вучыцца ў ёй пад наглядам гімназіста-рэпетытара Гутмана. Сяргей быў дужа здольны, руплівы, шчыры і настойлівы. Вучыўся ахвотна і старанна. Любіў сябраваць з сялянскімі хлопцамі, хоць бацькі былі гэтым вельмі незадаволены.

Навучанне ў Мазыры ішло добра, але бацькі западозрылі, што рэпетытар дрэнна ўплывае на Сяргея, бо той яшчэ больш пачаў сябраваць з сялянамі, вёў сярод іх розныя гутаркі і нават раздаваў ім прывезеныя з Мазыра лістоўкі. Таму ўвосень 1904 года бацькі перавялі Сяргея ў Мітаву, дзе ён паступіў у пяты клас Мітаўскай гімназіі.

У Мітаве ўжо вучыліся сёстры Сяргея. Разам з імі ён быў аддадзены ў пансіён, які належаў вядомым латышскім грамадскім дзеячам Беньямінам. З першых дзён жыцця ў Мітаве Сяргей пасябраваў са старэйшым сынам Беньяміна — Карлам, актыўным удзельнікам латышскага нацыянальна-адраджэнцкага руху (памёр ён, як і Палуян, у 1910 годзе), а таксама з настаўнікам Мітаўскага гарадскога вучылішча Аніськовічам, свядомым беларусам. І Карл Беньямін, і Аніськовіч станоўча паўплывалі на фарміраванне светапогляду С. Палуяна, умацавалі яго ў імкненні служыць роднаму народу. Пра гэта, дарэчы, Сяргей адзначаў у сваім дзённіку, які ён пачаў весці ў Мітаве (існаваў, аказваецца, у свой час і дзённік С. Палуяна; вось бы адшукаць яго!).

Настаўнік Аніськовіч пазнаёміў Сяргея з навуковымі працамі пра беларусаў, з некаторымі беларускімі літаратурнымі творамі («Тарас на Парнасе», кнігі А. Пшчолкі). Малады гімназіст, у прыватнасці, даведаўся, што яшчэ ў 1852 годзе ў Мітаве чыталіся даклады пра бела-

рускую мову і нават выйшла невялікая брашура Галатузава «Заметки о белорусском языке» (надрукавана ў выглядзе «Программы для публичного акта в Митавской гимназии»).

Грамадзянскія настроі С. Палуяна выявіліся яшчэ ў Мазыры. У Мітаве яны канчаткова сфармаваліся ў перакананні, за якія ён быў гатовы аддаць сваё жыццё. На жаль, грамадскія памкненні шчырага, чулага і настойлівага хлопца не знаходзілі разумення і падтрымкі ў яго дзядзькоў і бацькоў, для якіх уласны дабрабыт быў вышэй за ўсё. Родзічы пільна сачылі за кожным крокам і кожным словам Сяргея. Асабліва непрыязныя адносіны склаліся ў яго з дзядзькам Сцяпанам Бахонкам, чалавекам дэспатычнага характару, манархічных поглядаў. Сяргей не мог ніяк устрымацца, калі дзядзька пачынаў адстойваць свае манархічныя погляды, і таму праз нейкі час дзядзька неўзлюбіў свайго пляменніка. Асабліва пачаў лютаваць дзядзька, калі заўважыў, што яго сын Іван пачаў сябраваць з Сяргеем і падзяляць ягоныя думкі.

Па парадзе дзядзькі, каб «ўратаваць» Сяргея ад уплываў Карла Беньяміна і Аніськовіча, увосень 1905 года хлопца пераводзяць у пансіён настаўніка падрыхтоўчага класа Мітаўскай гімназіі Васіля Багдановіча, які вызначаўся жорсткім абыходжаннем з вучнямі. Багдановіч сачыў за кожным крокам Сяргея, нават правяраў яго рэчы. Аднойчы ў часе такой праверкі ён знайшоў у гімназіста нелегальныя выданні. Напісаў бацькам, запатрабаваў, каб забралі сына дахаты, пакуль таго не выключылі з шостага класа гімназіі.

Суправаджаць Сяргея ў Крышычы ўзяўся жаніх Ганны Палуян малады юрыст Мікалай Шалін. Ведаючы, што дома чакае гнеў і расправа дэспатычнага бацькі, Сяргей вырашыў па дарозе збегчы ад свайго ахоўніка. Ён неўзаметку перасеў з аднаго цягніка ў другі. Аднак Шалін, агледзеўшыся, узняў трывогу па ўсёй чыгуначнай лініі, і ўцекача хутка затрымалі.

Усё гэта яшчэ больш сапсавала ўзаемаадносіны бацькі з сынам. Бацька адмовіўся яго вучыць далей, прымушаў застацца на гаспадарцы. Сяргей і сапраўды некаторы час пражыў у вёсцы, займаючыся не толькі сельскай гаспадаркай, але і самаадукацыяй, сустракаючыся з сялянамі, паглыбляючы сваё веданне беларускай мовы, пранікаючыся настроямі простых людзей. Аднак гэты «хатні арышт» хутка абрыд хлопцу, і ён пачаў дамагацца, каб бацькі далі яму магчымасць скончыць гімназію. Бацька не згаджаўся. Тады сын самавольна пакінуў бацькоў і паехаў у Кіеў, дзе без аніякай падтрымкі жыў, працаваў і вучыўся.

Ганна Палуян паведамляе, што, нягледзячы на страшэнныя матэрыяльна-бытавыя цяжкасці (бацька адмовіўся дапамагаць сыну, маці толькі дазнавалася пра яго лёс ад знаёмых), Сяргей у 1908 годзе экстэрнам здаў экзамены за поўны курс гімназіі, а восенню нібыта паступіў у Кіеўскі універсітэт (гэта, аднак, не пацвярджаюць архіўныя матэрыялы). У Кіеве С. Палуян уключыўся ў рэвалюцыйны рух, наладзіў цесныя сувязі. з украінскімі нацыянальна-культурнымі дзеячамі, украінскім друкам. Улетку 1909 года паехаў у Вільню. У пачатку 1910 года вярнуўся назад у Кіеў, а ў красавіку таго года яго на стала...

Вось што ўспомніла на пачатку 40-х гадоў тагачасная рыжанка, старэйшая сястра Сяргея Палуяна Ганна. Безумоўна, асобныя дэталі яе ўспамінаў (падзеі, факты, прозвішчы) надзвычай цікавыя, адкрываюць шляхі да новых пошукаў. Так, магчыма, дзе-небудзь захаваўся яшчэ юнацкі дзённік С. Палуяна. Не выключана, што ў архіве Беньямінаў ёсць асобныя матэрыялы, звязаныя з С. Палуянам. Нешта, відавочна, магло захавацца ў нашчадкаў Сцяпана і Вікенція Бахонкаў, настаўніка Васіля Багдановіча і іншых асоб...

Пошукі трэба працягваць.

Сляды знічкі могуць прывесці да новых знаходак.

*1990 г.*

## З М ЕСТ



Литературно-художественное издание
ПО СЛЕДАМ ПАДАЮЩЕЙ ЗВЕЗДЫ
КАБРЖИЦКАЯ Татьяна Вячеславовна,
РАГОЙША Вячеслав Петрович
Минск, журнал «Молодость», на белорусском языке
Літаратурна-мастацкае выданне
СЛЯДАМІ ЗНІЧКІ
КАБРЖЫЦКАЯ Таццяна Вячаславаўна,
РАГОЙША Вячаслаў Пятровіч
Мінск, часопіс «Маладосць», на беларускай мове
Галоўны рэдактар А. Грачанікаў
Рэдактар А. Камароўскі
Мастак В. Сташчанюк
Мастацкі рэдактар В. Казлоў
Тэхнічны рэдактар В. Марынчанка
Карэктар В. Башак

Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79. Здадзена ў набор 25.09.90. Падпісана да друку 6.11.90. Фармат 70х100Уз2. Друк высокі. Гарнітура школьная. Умоўн. фарбаадб. 5,53. Ум. друк. арк. 3,23. Ул.-выд. арк. 3,81. Тыраж 2620 эісз. Зак. 966. Цана 35 к.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79,